ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 10 (2360) 10 сакавіка 1994 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 30 рублёў.

ЖАНОЧЫ ПАРТРЭТ НА ФОНЕ

ХВОРАГА ГРАМАДСТВА

## КРЫТЭРЫЙ ВЕРЫ



Вельмі часта чалавек -- свядома ці падсвядома -- цягнецца да зорак, забываючыся пры гэтым, што Зямля наша -- таксама зорка. І адказы на пытанні быцця, якія мы ў пакутах шукаем гадамі, іншы раз знаходзяцца побач. І, як правіла, чым складаней пытанне, тым прасцейшы адказ.

З Аксанай Вярбіцкай я пазнаёмілася ў хаце свайго бацькі, куды яна часам заходзіла ў госці. Каюся, адразу цяжка было паверыць у натуральнасць шчырасці гэтай дзяўчыны, яе добразычлівасці і жадання дапамагчы ў любой сітуацыі. Трохі насцярожвала і яе незвычайна цвёрдая і непахісная вера ў Бога. І ўсё гэта сёння, калі людзі замыкаюцца, адгароджваюцца ад усяго свету, паглыбляюцца ў бясконцыя праблемы і не вераць нават самім сабе? Але ішоў час, я ўсё больш і больш даведвалася пра Аксану і паступова стала заўважаць, што даўно мне ні з кім не было так спакойна, радасна і лёгка, як з гэтай значна маладзейшай за мяне дзяўчынай. На змену адным пытанням прыйшлі новыя, і ў рэшце рэшт я папрасіла яе адказаць на іх. Аказалася, што бацькі Аксаны раней у Бога не верылі, але яна сама з дзяцінства адчувала нябачную руку, якая кіравала яе лёсам. І нічога дзіўнага ў гэтым няма, бо з самага маленства, нават яшчэ не асэнсавана ўсе мы імкнёмся да шчасця і не абавязкова ў малітве, а проста ў думках часта звяртаемся да нечага нябачнага і невядомага з просьбай аб дапамозе.

-- У жыцці кожнага чалавека многа незвычайнага і дзіўнага, --гаворыць Аксана, -- але калі з намі нешта здараецца -- як добрае, так і дрэннае, -- людзі часцей за ўсё гавораць: гэта -- лёс, а то і проста супадзенне. Так прасцей, бо падаецца, што ўсё добрае з табой адбываецца само па сабе, а дрэннае незалежна ад тваіх учынкаў ці думак усё роўна спасцігне, і таму жыццё не патрабуе ад цябе ніякіх духоўных і фізічных намаганняў. А спасціжэнне Бога, жыццё па ўсталяваных ім законах -- гэта цяжкая праца, да таго ж часта звязаная з пакутамі і болем, якіх мы ўсё жыццё імкнёмся пазбегнуць.

Між тым, гэта ўдаецца далёка не ўсім і не заўсёды. Гэта Аксана зразумела, калі пачала наведваць у шпіталях дзяцей, хворых на лейкемію і рак. Яна не адзінокая, бо жанчын з нядаўна зарэгістраванага сястрынства Марфы і Марыі (у рабоце якога прымае ўдзел і Аксана) ведаюць і ў гематалагічным цэнтры, і ў дзіцячай анкалогіі, і ў іншых месцах, пра якія здароваму чалавеку нават падумаць страшна.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

АБАРВАНАЯ ПЕСНЯ Уладзіміра КЛІШЭВІЧА

## НАВАТ ПУШЧЫ АД БОЛЮ ГАЛОСЯЦЬ

Яны вяртаюцца адзін за адным, займаюць у нашай свядомасці кожны сваё адметнае месца -- Барыс Кіт, Наталля Арсеннева, Масей Сяднёў, Мікола Куліковіч-Шчаглоў, Мікола Равенскі, Міхал Забэйда-Суміцкі, Галіна Русак... Іх ужо немагчыма выкрасліць з гісторыі і культуры народа, бо напісанае -- застаецца. Пакуль дазваляе час, трэба спяшацца, каб не канулі ў Лету яшчэ дзесяткі імёнаў беларускіх вучоных, мастакоў, пісьменнікаў, кампазітараў, якія, жывучы за межамі Бацькаўшчыны, заўсёды мелі яе ў сваім сэрцы, працавалі і працуюць дзеля яе дабра. Чамусьці мы рэдка згадваем пра тое, што і Радзіма не заўсёды была ласкавай і справядлівай да сваіх дзяцей, і тыя, каго яна доўгі час лічыла сваімі ворагамі, былі проста няшчаснымі і ў складаных жыццёвых варунках заставаліся сумленнымі людзьмі.

У такой даўняй і добра знаёмай кніжцы Уладзіміра Клішэвіча "Сняцца дні мне залатыя" напаткала радкі:

**Шмат чаго паспытаць**
**давялося**
**На сваім невясёлым вяку.**
**Нават пушчы ад болю**
**галосяць,**
**Калі іх пад карэнне сякуць.**

У іх, падалося мне, сутнасць усяго шматпакутнага жыцця паэта. І фізічны боль, якога ў яго жыцці было так многа, не самае страшнае. Аж да самай смерці галасіла яго душа, пакрыўджаная, абражаная, незразуметая ні тут, на Радзіме, ні там, на Захадзе, сярод такіх жа выгнаннікаў, якім быў і Уладзімір Клішэвіч.

Больш за дваццаць гадоў назад ён быў адным з першых з хвалі беларускай эміграцыі, якая адступала з немцамі ў 1944 годзе, хто асмеліўся наведаць Беларусь. Мы, старыя супрацоўнікі "Голасу Радзімы", пачулі тады яго горкую споведзь. Уладзімір Сідаравіч расказваў пра сябе, не хаваючы ні добрага, ні благога. Успамінаючы нечаканы арышт у 30-я гады, перанесеныя знявагу, здзекі і катаванні ў савецкіх засценках, калі яго вымушалі прызнацца ў "змове супраць улады", плакаў пякучымі слязамі. І мы, слухаючы яго, адчувалі амаль фізічны боль, быццам гэта нам заганялі пад пазногці іголкі і расплюшчвалі дзвярыма пальцы, бо тады яшчэ нязвыклымі былі такія аповяды, яшчэ не абабіла нас галоснасць. Пра перажытае Уладзімір Клішэвіч расказаў у аўтабіяграфічнай паэме "Васіль Каліна", што выйшла ў Лондане ў 1965 годзе.

Вось толькі невялікі ўрывачак з яе:

**Турма людской крывёй**
**прамокла.**
**Над галавой як ноч, так дзень**
**Вісіць смяротны меч**
**Дамокла,**
**Гуляе побач смерці цень.**
**Сядзіць прывязаны паэт,**
**А кат яму электрасвет**
**Вялікай сілы даў у вочы...**
**То свет шыпшынаў,**
**то лілея...**
**Пад лямпай Гартны**
**вар'яцее,**
**Трагічна ён з людзей рагоча...**

**Паверхі трэці і чацвёрты**
**У той час Менскае турмы**
**Служылі кузняю кагорты,**
**А молат смерці чулі мы.**
**Крычэлі каты: "Гавары!"**
**Бух! Бух! -- каціліся з гары.**
**"Ой, ой!" -- ляцела ў**
**цемень ночы.**
**Ніхто ў душы не мог зацерці**
**Крывава-страшны**
**танец смерці --**
**Балюча-звонкі крык жаночы.**

Не было магчымасці і ў "Голасе Радзімы" ў пачатку 70-х расказаць пра лёс Уладзіміра Клішэвіча. Аднак змясцілі тады яго фотаздымак і нізку вершаў.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

ЛЯЛЕЧНЫ ТЭАТР "ПАД БОКАМ" У СТАЛІЦЫ

## РЭПЕРТУАР НА ЎСЕ ЎЗРОСТЫ

Ад дабра дабра не шукаюць. А вось жа знайшоўся чалавек, які вырашыў абвергнуць сутнасць старой народнай прымаўкі. Гэта Сяргей Юркевіч.

...Што трэба было яму, галоўнаму рэжысёру Гродзенскага абласнога тэатра лялек? Павага калег, любоў гледачоў, любімая справа. (Забягаючы наперад, адзначым, што і па сёння і ў Гродне, і ў Магілёве, дзе ён раней працаваў, ідуць спектаклі, пастаўленыя Сяргеем Фёдаравічам), а ён едзе ў Маладзечна, каб арганізаваць новы тэатр.

Час быў выбраны не вельмі ўдалы: не да культуры, калі ў заняпадзе эканоміка. Падтрымкі чакаць няма адкуль.



(Працяг на 7-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*У ВЫШЭЙШЫМ ЭШАЛОНЕ*

## БУДЗЕМ ХАДЗІЦЬ ПАД ПРЭЗІДЭНТАМ

**1 сакавіка было закончана галасаванне па пайменных бюлетэнях у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь. Галасаванне праводзілася па паасобных раздзелах новай Канстытуцыі. У выніку 260 дэпутатаў выказаліся за ўвядзенне ў Беларусі прэзідэнцкай улады.**

**Парламенцкая апазіцыя БНФ у галасаванні ўдзелу не прымала. У сваёй заяве дэпутаты ад апазіцыі адкінулі прапанаваную мадэль галасавання як "невядомую ў дэмакратычных краінах" і прапанавалі сваю. Аднак альтэрнатыўныя варыянты нават не былі вынесены на разгляд Вярхоўнага Савета. Галасаванне па пайменных бюлетэнях названа спробай нелегальным шляхам увесці прэзідэнцкую ўладу ў Беларусі.**

**Былы Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч галасаванне па Канстытуцыі па бюлетэнях пры адсутнасці Канстытуцыйнага суда назваў незаконным. Яно з'яўляецца фактычна пераваротам.**

*СІМВАЛ ДОБЛЕСЦІ І СЛАВЫ*



**"Законнасць, справядлівасць і гуманізм" -- гэтыя словы вышыты на новым сцягу Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь. Вечарам 28 лютага Старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч уручыў зялёнае палотнішча міністру ўнутраных спраў Уладзіміру Данько. Уручэнне новага сцяга напярэдадні 4 сакавіка -- Дня міліцыі ў Рэспубліцы Беларусь -- кіраўнік урада расцаніў як "новую вяху" і чарговы крок да незалежнасці рэспублікі, паведамляе Белінфарм.**

**НА ЗДЫМКУ: сцяг прымае міністр унутраных спраў Уладзімір ДАНЬКО.**

*"Асноўным знешнепалітычным прыярытэтам Беларусі, безумоўна, з'яўляюцца адносіны з Расійскай Федэрацыяй.*

*У гэтым наш абгрунтаваны гістарычны выбар. Яго безальтэрнатыўнасць заключаецца ў агульнасці беларуска-расійскай культуры, адзіных інтарэсаў двух брацкіх народаў, у глыбокай інтэграцыйнасці, нядаўняй агульнасці прамысловага патэнцыялу і камунікацыйнай прасторы.*

*Адказваючы такой аргументацыяй некаторым крытыкам знешнепалітычнага курсу беларускага ўрада, хацеў бы яшчэ раз заявіць, што Беларусь няўхільна ідзе па шляху рэформаў, будуе дэмакратычнае грамадства, суверэнную прававую дзяржаву, адкрытую для дыялога з усімі па-сяброўску настроенымі ў адносінах да нас краінамі.*

*Упэўнены, што мы разумеем важнасць гістарычнага моманту, які перажывае наша рэспубліка, і не можам згадзіцца з тым, каб у дзяржаўнай палітыцы нацыяналізм і экстрэмізм узялі б верх над розумам, правы і свабоды асобы ставіліся б у залежнасць ад нацыянальнай прыналежнасці".*

*(З выступлення на сесіі Вярхоўнага Савета Старшыні Савета Міністраў Беларусі В. Кебіча).*

*ДА ЎЛАДЫ ДАСКАНАЛАЙ*

## РЭАРГАНІЗАЦЫЯ САВЕТА МІНІСТРАЎ

**Урад Беларусі вуснамі свайго прэм'ера абнародаваў праект рэарганізацыі Савета Міністраў.**

**У цэлым намечана скараціць 13 міністэрстваў і ведамстваў. Гэта амаль чацвёртая частка ад іх цяперашняй агульнай колькасці.**

**Цэнтральныя апараты міністэрстваў і ведамстваў прадугледжваецца скараціць на 12 працэнтаў (800 чалавек) ад іх колькасці. Эканомія ад гэтага з улікам аплаты працы, якая дзейнічала ў снежні 1993 года, у разліку на год складзе каля паўтара мільярда рублёў.**

**Апарат Савета Міністраў скарачаецца на 10 працэнтаў, што па заработнай плаце па стану на снежань бягучага года складзе ў пераразліку на год каля 100 мільёнаў рублёў эканоміі.**

**Колькасць супрацоўнікаў апарату скароціцца больш чым на адну трэцюю і будзе ў межах 200 чалавек.**

*СТРАШНАВАТА*

## ЗНОЎ — НАЦЫЯНАЛІЗМ

**Неспакой у грамадстве выклікалі апошнія падзеі ў беларускім парламенце. З лёгкай рукі дэпутата Сарокіна зноў пайшоў гуляць прапагандысцкі жупел нацыяналізму ў яго самай змрочнай інтэрпрэтацыі. Выступаючы на сесіі, Сарокін патрабаваў стварыць камісію для расследавання "фактаў прапаганды ў сродках масавай інфармацыі нацыяналізму". Дэпутат Сарокін "узрел" у беларускай прэсе, што яна распальвае варажнечу паміж народамі, а галоўнае -- крыўдзяць вялікі рускі народ.**

**Абвінавачванні Сарокіна сягнулі надта далёка: ён патрабаваў "рассмотреть целесообразность нахождения на должности министра образования спадара Гайсенок" і "оценить роль постоянной комиссии под руководством народного депутата Гилевича".**

**"Сапраўдная мэта тых, ад чыйго імя выступіў дэпутат Сарокін, -- спыніць працэс нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння", - заявіў Ніл Гілевіч.**

*З ВЯЛІКАГА ГРОМУ*

## КАНСУЛЬТАНТ АД'ЕХАЎ

**Прадстаўнік Казначэйства ЗША Р.Лос завяршыў сваё знаходжанне ў якасці саветніка-кансультанта пры Мінфіне Рэспублікі Беларусь. На працягу амаль дзесяці месяцаў за кошт амерыканскага боку ён даваў кансультацыі па фінансавых пытаннях. Паводле неафіцыйнай інфармацыі, Р.Лос датэрмінова спыніў сваю камандзіроўку з-за малаэфектыўнасці яго ўдзелу ў якасці кансультанта.**

*ЗЛАЧЫННАСЦЬ*

## ДАСЯГНУЛІ РЭКОРДНАЙ АДЗНАКІ

**У рэспубліцы захоўваецца ўстойлівая тэндэнцыя росту злачыннасці, -- заявіў Генеральны пракурор Беларусі В. Шаладонаў. -- У мінулым годзе было ўчынена 103 тысячы 321 злачынства, што на 6,9 працэнта больш, чым у 1992 годзе. Пастаўлены своеасаблівы сумны рэкорд -- агульная колькасць выяўленых злачынстваў упершыню перавысіла стотысячную адзнаку.**

**Сярод забойцаў 31,6 працэнта складаюць беспрацоўныя, сярод грабежнікаў і разбойнікаў іх 45,4 працэнта, а сярод махляроў -- палавіна. У тры з лішнім разы ўзрасла колькасць кіраўнікоў прадпрыемстваў, арганізацый, работнікаў вытворчасці, што ўчынілі злачынствы ў сферы эканомікі. А колькасць фальшываманетчыкаў павялічылася аж у 74 разы! Гэта толькі "раскрытых".**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ЯК ЗАЯВІЎ Старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па барацьбе з карупцыяй Аляксандр Лукашэнка, у яго маецца спіс адказных асоб, замешаных у карупцыі. Лукашэнка патрабуе зняць з работы, прынамсі, 21 высокага дзяржаўнага чыноўніка.

ПА 15 ТЫСЯЧ рублёў атрымаюць у якасці фінансавай падтрымкі ў сакавіку тыя жыхары Беларусі, якія жывуць на дапамогу па беспрацоўю. Гэта -- "падарунак" ад Савета Міністраў Беларусі. На такія вялікія грошы можна якраз купіць адзін кілаграм "Чайнай" каўбасы -- самай таннай на сённяшні дзень.

ЛІБЕРАЛЬНА-ДЭМАКРАТЫЧНАЯ партыя Беларусі атрымала юрыдычны статус. Новая партыя ставіць галоўнымі мэтамі эканамічны і палітычны саюз з Расіяй, прыпыненне канверсіі ваеннай прамысловасці, выкараненне арганізаванай злачыннасці, барацьбу са спекулянтамі.

У 1995 ГОДЗЕ ў Беларусі будуць выраблены першыя 300 тралейбусаў. Так прадугледжана праграмай развіцця гэтага віду грамадскага транспарту. Раней тралейбусы Беларусь атрымлівала з Расіі, цяпер даводзіцца клапаціцца пра сябе самім.

НАШ АЙЧЫННЫ бізнесмен Андрэй Клімаў, дагэтуль вядомы тым, што будуе палацы для сучасных заможных людзей, мае намер выпускаць беларускія легкавыя аўтамабілі. Праз пяць год на невялікім заводзе ў Мінску павінна быць наладжана іх вытворчасць. А.Клімаў лічыць, што нашы аўтамабілі здолеюць канкурыраваць з "Фіятам" і "Пежо".

УПЕРШЫНЮ за пасляваенныя гады ў Беларусі смяротнасць перавысіла нараджальнасць. Як падае статыстыка, розніца паміж жыццём і смерцю складае 9 працэнтаў. Не апошняя прычына тут -- наша сённяшняя сацыяльная нішчымніца.

*НАТАТКІ З НАГОДЫ*

## НОВАЕ — ГЭТА ДОБРА ЗАБЫТАЕ СТАРОЕ?

"Нарэшце", усё перавярнулася з галавы на ногі і стала на свае месцы. "Нарэшце", няма больш патрэбы выдаваць чорнае за белае і наадварот. "Нарэшце", нашы дэпутаты могуць гаварыць толькі тое, што думаюць і адчуваюць, і націскаць на кнопкі, не клапоцячыся пра нейкія незразумелыя ім умоўнасці. "Нарэшце", у зале беларускага парламента ўсталяваўся парадак, новы парадак. Сёння гэта ўжо бачна нават няўзброеным вокам. Ціск новага парадку першай, як і належыць, адчула на сабе апазіцыя, чые выступленні, патрабаванні, заявы ў лепшым выпадку ўспрымаюцца на ўзроўні піску кацянят альбо проста ігнаруюцца. І нават традыцыйныя дэмаршы членаў апазіцыі, як непрыняцце ўдзелу ў галасаванні, нікога ў Авальнай зале парламента ўжо не палохаюць. Ну, адмовіліся некалькі дзесяткаў чалавек галасаваць за ўвядзенне прэзідэнцтва на Беларусі, не страшна: пытанне вырашылася яшчэ да таго, як былі раздадзены бюлетэні, бо зараз у парламенце ёсць тое, да чаго безвынікова заклікаў яго папярэдні старшыня, -- згода.

Такім чынам, і ў нас, як у людзей, будзе свой прэзідэнт. Наогул, гэта ўсё было б і нядрэнна: няхай, нарэшце, у дзяржаве з'явіцца аўтарытэтная і ўплывовая ўлада. Але ў наш час эканамічнага разбурэння і грамадскага нявер'я вельмі складана, а можа і немагчыма знайсці асобу, здольную сапраўды кансалідаваць нацыю. Не хачу нікога крыўдзіць, але сёння проста няма такога лідэра ні сярод тых, хто пакуль пры ўладзе, ні ў шэрагах прэтэндэнтаў на яе. Разам з тым, калі выбары аб'яваць, некага ж і выберуць. Вось толькі ці стане такі выбар пераможнай кропкай у перыядзе разброду і хістання?

Наогул артыкулы новай Канстытуцыі прымаюцца ўдарнымі тэмпамі. Дэпутаты, якія на пачатку сесіі настойвалі на першапачатковым абмеркаванні эканамічных пытанняў, а толькі пасля -- канстытуцыйных, зараз памянялі пункт гледжання: ці то ўсвядомілі важнасць апошніх, ці то, заблытаўшыся ўшчэнт з эканомікай, надумалі адкласці разгляд гаспадарчых праблем да лепшых часоў, магчыма, датуль, калі прывычна для большасці ўсё ўжо будзе вырашацца ў Маскве. Праўда, у бясконцай гісторыі з аб'яднаннем грашовых сістэм Расіі і Беларусі, як і меркавалася, зноў зацішак, і канца так і не бачна... Колькі разоў абвяшчалася: вось-вось прыедзе Чарнамырдзін, ён усё і вырашыць, але расійскаму прэм'еру, відаць, пакуль не да нас, дай Божа, са сваімі справамі разабрацца. Ну а мы? Колькі мы будзем знаходзіцца ў гэткім падвешаным стане, не рухаючыся ні ўлева, ні ўправа, ні да капіталізму, ні да камунізму? Хаця не, нешта вымалёўваецца: новы кіраўнік дзяржавы М.Грыб у інтэрв'ю газеце "Советская Белоруссия" сказаў: "Нам не трэба будаваць капіталізм, і мы яго не будзем будаваць..." І далей: "Беларусы, рускія -- славяне, ды і не толькі славяне -- усе, хто жыў на тэрыторыі былога Савецкага Саюза, у большасці сваёй маюць іншы духоўны, унутраны стрыжань. Аснова яго -- імкненне да справядлівасці, барацьба за яе, вера ў перамогу справядлівасці, з якой неспалучальныя прынцыпы "купі-прадай" і "ўзбагачайся, як можаш". Вось так, зноў "у савецкіх уласная годнасць", зноў мы не такія, як усе, мы -- лепшыя: і стрыжань у нас іншы, і справядлівасць нашая -- не такая, як у другіх. Вось толькі незразумела, чаму мы з такой гатоўнасцю глядзім у рукі і вочы тым, хто "купі-прадай" недзе там, за межамі тэрыторыі былога Савецкага Саюза: можа, што-небудзь адколецца ад шчодрасцей? І наогул, колькі ўжо можна быць не такімі, як увесь свет, калі-небудзь і нам не пашкодзіла б стаць падобнымі на іх: сытымі, упэўненымі, заспакоенымі. А пакуль, мабыць, у рэчышчы апошніх выказванняў спікера быў прыняты закон аб спекуляцыі, які прадугледжвае зняволенне да шасці гадоў менавіта за тое вось "купі-прадай".

Але не ўсе раздзелы Канстытуцыі ўдаецца прыняць з наскоку. Дзяржаўная мова -- адзін з галоўных, а, можа, і галоўны на сёння камень спатыкнення, пытанне, бадай, апошняе, дзе дэпутаты пакуль не змаглі даць сабе поўную волю. Не хапае ім пакуль яшчэ рашучасці ўзаконіць у рангу дзяржаўнай і мову рускую, чаго, здаецца, многім вельмі хацелася б. Ніяк не паверыць: ці сапраўды ўжо можна. Вось і ляцяць пробныя камяні -- крыху забытыя сёння размовы пра беларускі нацыяналізм (ці не смешна?) і экстрэмізм, уціск рускамоўнага насельніцтва. Калі пройдзе гэтае, можна будзе рухацца далей, так ці што? Трапную заўвагу зрабіў пісьменнік, таксама народны дэпутат Ніл Гілевіч, які сказаў, што яшчэ невядомы ніводны чалавек, якому прыйшлося б ратавацца з-за "беларускага нацыяналізму". Падобныя абвінавачванні ён небеспадстаўна параўнаў з падзеямі сумна вядомага 31-га года. Застаецца спадзявацца, што такое параўнанне застанецца на ўзроўні эмоцый, а не пяройдзе на практычную глебу.

У цэлым жа складваецца ўражанне, што вядомае выслоўе пра новае як добра забытае старое, з'явілася і бытуе сярод нас нездарма.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

## У ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

# НЕ ЗАБЫВАЙЦЕ НАС!

Хоць Сярэдняя Азія і лічыцца блізкім замежжам, сёння гэта недзе далёка-далёка. Тым не менш, калі да нас прыйшло запрашэнне прыехаць на адкрыццё беларускага таварыства ў Ташкенце, мы не маглі адмовіцца. Цікава было паглядзець на беларусаў, што жывуць ва Узбекістане, даведацца, як ім там сёння. А пражывае іх ва Узбекістане каля 30 тысяч. Гэта людзі, якія трапілі туды па размеркаванню, прыехалі на ўсесаюзныя новабудоўлі, гэта выхаванцы дзіцячых дамоў, эвакуіраваных у час вайны з Беларусі, якія засталіся тут назаўсёды. Сюды высылаліся беларусы ў час рэпрэсій; тут добра помняць і паважаюць аднаго з арганізатараў нашага "Маладняка" Сцяпана Ліхадзіеўскага, Аркадзя Мардвілу, якія пакінулі значны след у культуры Узбекістана. Дарэчы, да беларусаў узбекі ставяцца вельмі добразычліва, ім падабаецца наша працавітасць, сумленнасць, адукаванасць. Дзякуючы гэтым рысам характару многія з беларусаў займаюць высокія кіруючыя пасады на прадпрыемствах і ва ўстановах, нават у апараце Прэзідэнта.

У рэспубліцы, якая ўзяла курс на самастойнасць з адзінай, дзяржаўнай мовай і сваёй грашовай сістэмай, як і паўсюль у СНД, цяпер вельмі цяжка. Узбекістан -- самая многанацыянальная рэспубліка, і каб вырашыць пытанні, звязаныя з нацыянальнымі меншасцямі, тут створаны адзіны каардынацыйны орган, практычнай рабоце якога дапамагае апарат Прэзідэнта. У склад інтэрнацыянальнага цэнтра ўвайшлі прадстаўнікі 27 культурных таварыстваў розных народаў. Гэта беларусы, літоўцы, палякі, рускія, немцы, карэйцы, башкіры, удмурты і г.д.

Былы Музей дружбы народаў СССР, на выгляд сапраўдны палац, перададзены цэнтру. У ім ёсць метадычны кабінет па вывучэнню нацыянальных моў, бібліятэкі з фондам літаратуры на ўсіх мовах, кіназала, кіналекторый, музычная гасцёўня, выставачная зала. Пры ўваходзе можна ўбачыць расклад, дзе ў пэўныя дні культурныя цэнтры розных нацыянальных меншасцей могуць праводзіць свае мерапрыемствы.

Тут і адбылося ўрачыстае адкрыццё беларускага культурнага цэнтра "Світанак", якое ўвайшло як рэгіянальная арганізацыя ў склад Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

Ініцыятыўная група па стварэнню суполкі -- вельмі інтэлігентныя, высокаадукаваныя і шчырыя беларусы, якія працуюць у Паўнамоцным прадстаўніцтве Рэспублікі Беларусь ва Узбекістане.

Думка стварыць беларускі асяродак у сябе дома з'явілася ў Аляксандра Косава, які ўзначальвае Беларускае прадстаўніцтва ва Узбекістане, пасля Першага з'езда беларусаў свету, удзельнікам якога ён быў. Сёння прадстаўніцтва з'яўляецца маленькім беларускім домам, які ўпрыгожаны нацыянальнай сімволікай, карцінамі з роднымі пейзажамі. Тут вельмі гасцінныя гаспадары, і кожны, хто прыходзіць сюды, адчувае сябе ўтульна. А людзей тут бывае многа. Гэта госці з Беларусі, у асноўным дырэктары фабрык, якія самі шукаюць сыравіну, каб забяспечыць бесперапыннасць вытворчасці сваіх прадпрыемстваў у Мінску, Баранавічах, Гродне. Тут можна ўбачыць узбекскіх бізнесменаў, якія жадаюць наладзіць сувязі з Беларуссю. Сюды кожны дзень прыходзяць беларусы з пытаннямі, як пераехаць на радзіму ці як туды з'ездзіць, не маючы "зайчыкаў".

На адкрыцці доўга гаварылі аб неабходнасці аб'яднання беларусаў, аб вывучэнні беларускай мовы, культуры, гісторыі, аб развіцці культурных, эканамічных сувязей, супрацоўніцтве ў галінах медыцыны, экалогіі.

Улічваючы цяжкае эканамічнае становішча Беларусі і немагчымасць усім туды пераехаць, падкрэслівалася неабходнасць адаптацыі беларусаў да ўмоў пражывання ва Узбекістане праз актыўнае вывучэнне ўзбекскай мовы.

Вырашана адкрыць нядзельную школу для дзяцей беларусаў, арганізаваць калектыў мастацкай самадзейнасці з ліку беларусаў, якія жывуць у Ташкенце.

У планах "Світанка" -- стварэнне банка даных аб беларусах, што пражываюць ва Узбекістане і жадаюць пераехаць на Беларусь, арганізацыя суполак у іншых гарадах Узбекістана. Была выказана вялікая ўдзячнасць ЗБС "Бацькаўшчына" за падтрымку ў арганізацыі таварыства, дапамогу ў розных пытаннях, за беларускія газеты, часопісы і кнігі, якія яно дасылае. "Дзе вас можна знайсці?" -- пыталіся людзі. Карыстаючыся выпадкам, адказваю: мы знаходзімся ў Мінску па адрасу: **Рэвалюцыйная, 15.** Ёсць у "Світанка" і спонсары, якія пералічылі некалькі мільёнаў рублёў на яго рахунак. Гэта МП "Вікторыя", дырэктар якога беларус Аляксей Клімковіч стварыў беларускі асяродак у Фергане, актыўна ўдзельнічаў у арганізацыі "Світанка" і нават за гэта ўзнагароджаны Граматай Прэзідэнта Узбекістана.

"Світанак" плануе стаць заснавальнікам некалькіх прадпрыемстваў, якія будуць ладзіць эканамічныя сувязі менавіта з Беларуссю.

А потым былі сустрэчы з рознымі людзьмі. Кожны хацеў запрасіць да сябе дамоў "жывога" беларуса, паслухаць родную мову, пачуць, што ў нас адбываецца. Адчувалася, што ўсе яны перажываюць за лёс Беларусі. Розныя былі меркаванні наконт рублёвай зоны, наконт будучыні Бацькаўшчыны. Але пасля доўгіх размоў усе згаджаліся, што Беларусь усё ж такі павінна быць незалежнай. І чуць гэта было прыемна.

А пры развітанні старшыня "Світанка" Кірыла Гром вельмі прасіў перадаць ад усіх беларусаў Узбекістана:

-- Няхай не забывае нас Беларусь!

**Ніна ПЕТУХОВА.**

## БРЫТАНСКІЯ ЎЗНАГАРОДЫ БЕЛАРУСКАМУ ВЕТЭРАНУ



**Чатыры баявыя ўзнагароды ўручыў 23 лютага Пасол Вялікабрытаніі ў Рэспубліцы Беларусь Джон Эверард Тайсе Ковель, нявестцы Мікалая Ковеля. Сам ветэран з-за дрэннага здароўя не змог прыехаць у Мінск на ўрачыстую цырымонію.**

**У гады Вялікай Айчыннай вайны Мікалай Ігнатавіч служыў у Польскіх узброеных сілах пад брытанскім камандаваннем, вызначыўся ў баях. Гэта і паслужыла прычынай для ўзнагароды.**

**НА ЗДЫМКУ:** у час уручэння ўзнагарод.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

# КРЫТЭРЫЙ ВЕРЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

А як быць хвораму, для якога шумны, цікавы, рознакаляровы свет раптам знікае, і застаюцца толькі шэрыя сцены ціхай бальнічнай палаты? Некуды падзеліся сябры, часам адвярнуліся сваякі, толькі яна, хвароба, не хоча пакінуць цябе ні ўдзень, ні ўначы. Усе мы ведаем, як цяжка здароваму знаходзіцца побач з хворым. Асабліва, калі гэта дзіця, дапамагчы якому можа толькі цуд. І самае дзіўнае, што цуды часам здараюцца -- а як жа інакш растлумачыць зафіксаваныя ўрачамі і аналізамі паляпшэнні ў стане безнадзейна хворых, якія адбываюцца пасля богаслужэнняў, што рэгулярна праводзяцца ў гэтых шпіталях? Але хвароба ёсць хвароба, і сакраментальныя словы -- "медыцына бяссільная" часта становяцца апошнім прысудам для зусім маленькіх дзяцей і іх бацькоў. У гэтым выпадку жанчыны з сястрынства Марфы і Марыі да апошняй хвіліны імкнуцца аблягчыць пакуты, суцешыць, падзяліць невыносны боль. Як вытрымаць гэта, не зламацца, не згарэць ад адчаю і бяссілля?

-- З Божай дапамогай, -- спакойна адказвае Аксана. -- Не можа быць духоўнага росту без пакутаў, і нікому Гасподзь не пасылае іх больш, чым можа вытрымаць гэты чалавек.

-- Ці часта ты бываеш у шпіталях? -- пытаюся я.

-- У панядзелак я наведваюся ў інтэрнат гематалагічнага цэнтра да хворых дзяцей, якія знаходзяцца там разам з мамамі, у аўторак бываю ў самім гематалагічным цэнтры, у сераду іду ў анкалогію другой клінічнай бальніцы -- там ляжаць жанчыны, якія заўсёды з радасцю сустракаюць нас, ў чацвер і пятніцу, -- пералічвае Аксана, -- наведваю дома адзінокіх састарэлых, у нядзелю -- хаджу ў царкву.

Аксана таксама вучыцца на медыка.

-- Скажы, ты калі-небудзь хадзіла на папулярныя зараз мітынгі?

-- Не, ніколі. І не шкадую аб гэтым.

-- А на асабістае жыццё ў цябе час застаецца? Ты ж маладая, прыгожая дзяўчына, калі-небудзь прыйдзе час ствараць сям'ю...

-- Выпадковасцей не бывае ў нашым жыцці, і калі Бог пашле мне нешта чыстае і светлае -- я маю на ўвазе любоў, шчасце мацярынства, -- буду ўдзячная яму. Калі не -- прыму і гэта, значыць так трэба, -- гаворыць Аксана. -- Я спадзяюся на Бога.

А я губляюся перад годнасцю, спакоем і ўнутранай сілай гэтай дзяўчыны. Спачатку хочацца сказаць: як жа ж так, за сваё шчасце трэба змагацца! А потым прыходзяць на памяць уласныя прайграныя войны за лепшае жыццё і перамогі, горшыя за паражэнні...

Мне было таксама цікава даведацца, што думае Аксана пра наша сённяшняе жыццё. Чаго, на яе погляд, не хапае зараз усім нам?

-- Зараз вельмі многія гавораць пра Бога, з любой нагоды цытуюць Евангелле, але практычнае хрысціянства амаль знікае, -- лічыць Аксана. -- Быць веруючым -- значыць не толькі слухаць тое, што гаворыцца ў царкве, і чытаць малітвы. Куды важней жыць па законах Божых, кожны дзень працаваць над увасабленнем іх у жыццё. галоўны крытэрый веры -- гэта любоў. Між іншым, Бог выдзеліў чалавека з навакольнага свету менавіта, надзяліўшы здольнасцю да любові і даравання. А мы апошнім часам даруем толькі самім сабе, і, калі нават і робім нешта не так, то ў душы нашай усе мы ў адносінах да ўласных учынкаў добрыя адвакаты, а пракуроры -- толькі для іншых.

Некалі Аляксандр Салжаніцын прапанаваў як адзіна магчымы шлях барацьбы з прасякнутым ілжывасцю і фальшам рэжымам асабісты няўдзел кожнага прыстойнага чалавека ў агульнай хлусні. Сёння ў нашага грамадства іншыя, аднак не менш складаныя праблемы, і думаецца, што большасць з нас на прапанову нешта змяніць, адкажа: а што ад мяне, аднаго, залежыць? Мне падаецца, што Аксана і яе сяброўкі з сястрынства Марфы і Марыі знайшлі адзіны, даступны кожнаму спосаб барацьбы з жорсткасцю, насіллем і злом, якія акружаюць нас сёння. Яны проста адхіляюць гэта, не прымаючы ўдзел у дробных і буйных сварках, палітычных спрэчках і нікому не патрэбных канфліктах. Кожны дзень, як на працу, ідуць яны туды, дзе падаюцца неістотнымі і прымітыўнымі ўсе нашы праблемы і турботы, дзе яны патрэбны і могуць дапамагчы і робяць сваю патрэбную людзям справу любові і міласэрнасці.

-- Колькі сябе памятаю, -- ціха гаворыць Аксана, -- я лічыла, што кожны год, нават кожны дзень майго жыцця прыносіць нешта добрае ў маю душу. Яшчэ зусім нядаўна мне здавалася, што вакол мяне толькі чыстыя, прыгожыя людзі, поўныя любові і свету. Зараз жа ўсё гэта некуды адыходзіць, расце напружанасць у адносінах паміж намі, злосць і раздражненне. Не думаю, каб у бліжэйшы час наступіла прымірэнне і спакой. Часам мне бывае страшна, -- зусім ціха дадае Аксана, і я ўпершыню бачу яе сумнай.

Усё менш і менш апошнім часам духоўных набыткаў у нашых сэрцах, мы самі не заўважаем, як губляем уласцівыя чалавечай прыродзе імкненні да самаўдасканалення і духоўнай чысціні. А без гэтага нельга, бо па вызначэнню грузінскага філосафа Мираба Мамардашвілі, чалавек ёсць намаганне быць чалавекам. Без затрачаных на працу душы сіл ён ператвараецца ў прамахадзячую істоту са шклянымі вачамі і бессэнсоўным поглядам.

Былі ў мяне і іншыя пытанні да Аксаны, а яна зноў некуды спяшалася, і працяг размовы давялося адкласці. Але ж адказ на галоўнае пытанне, што цікавіла і хвалявала мяне, я ўсё ж такі атрымала. Мне спакойна, лёгка і радасна побач з гэтай маладой, прыгожай дзяўчынай таму, што, гледзячы на яе, я разумею: не ўсё яшчэ страчана, бо пакуль ёсць людзі, якія пра іншых думаюць больш, чым пра сябе, і спяшаюцца не на мітынгі і плошчы, а да хворых і бездапаможных, -- ёсць і надзея.

Давялося некалі пачуць прымаўку -- не стаіць сяло без праведніка. І сапраўды, калі ёсць хаця б адзін чалавек са светлай і чыстай душою, адродзяцца побач і іншыя душы, і выстаіць не толькі сяло, а і ўсё наша грамадства.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**



*НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ*

# Антон ЛУЦКЕВІЧ: ФІЛАСОФІЯ І ЭСТЭТЫКА НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ

З ЛІТАРАТУРНАЙ публіцыстыкай Антона Навіны (гэтым псеўданімам А.Луцкевіч падпісваў свае кніжкі, брашуры, крытычныя артыкулы) я ўпершыню пазнаёміўся ў першай палове 60-х гадоў, калі рыхтаваў дысертацыю, прысвечаную развіццю эстэтычнай думкі ў БССР (1917--1934 гады). Чытаючы кніжкі, часопісы, газеты з часоў "беларусізацыі", я звярнуў увагу на змястоўную і стылістычную непадобнасць той эпохі да майго часу, калі ўжо вычэрпвала сябе "хрушчоўская адліга" і насоўвалася "застойная восень".

Узнікала пытанне: а дзе ж тыя карэнні, якія жывілі шматколернасць, нейкую нязвычную для нас, тагачасных, адкрытасць і шчырую праўдзівасць літаратурна-мастацкага і навуковага жыцця 1920-х гадоў? Дзе, у якім "бермудскім трохкутніку" зніклі браты Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, Францішак Аляхновіч, Вацлаў Іваноўскі і яшчэ дзесяткі імёнаў, якія актыўна прысутнічалі ў маім "дысертацыйным" матэрыяле? Тым больш, што ўжо адбылася ўмоўная рэабілітацыя большасці ўдзельнікаў літаратурна-мастацкага руху БССР. Кажу "ўмоўна", бо ў афіцыйных выданнях, шматлікіх ідэалагічных клішэ пры ўпамінанні іх імёнаў нязменна дабаўляліся агаворкі тыпу: "дапускаў ідэалагічныя памылкі", "падпаў пад уплыў буржуазных нацыяналістаў" і да т.п. Выклікала здзіўленне нейкая пашахонская падмена дзеючых асоб беларускай гістарычнай драмы: сапраўдныя героі дзесьці зніклі альбо апынуліся недзе за сцэнай, а эпігоны, нават антаганісты, высунуліся на авансцэну.

Беларускі нацыянальна-культурны ўзлёт 20-х гадоў грунтаваўся на папярэднім нашаніўскім Адраджэнні. "Наша ніва" (не толькі штотыднёвік, але і своеасаблівы грамадскі інстытут нацыянальнай культуры) ініцыіравала станаўленне беларускай класічнай літаратуры, літаратурнай мовы, прафесійнага тэатра, музыкі, харэаграфіі, публіцыстыкі, крытыкі, грамадска-палітычнай думкі, гуманітарнай навукі, у пэўным сэнсе яшчэ і нацыянальнай эканомікі. Пісьменнікі і грамадскія дзеячы -- нашаніўцы заставаліся агульнапрызнанымі лідэрамі ў БССР 20-х гадоў (Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Максім Гарэцкі, Цішка Гартны, Усевалад Ігнатоўскі, з 1926 года яшчэ вядомы нашанівец Вацлаў Ластоўскі і інш.) і ў Заходняй Беларусі (Антон Луцкевіч, Браніслаў Тарашкевіч і інш.). Будучы ля вытокаў нашай класічнай літаратуры, "Наша ніва" сфармавала даволі адметныя парадыгмы нацыянальнай культуры (у шырокім сэнсе гэтага паняцця, уключаючы эканоміку, побыт, мараль, палітыку і г.д.), стваральнікі якіх перажылі жахлівыя выпрабаванні XX стагоддзя, але іхні плён захаваў сваю актуальнасць і перспектыўнасць на будучыню. "Наша ніва" -- гэтая сялянская, "мужыцкая" паводле падачы матэрыялу, а па духу шляхетная газета ў сваёй цэласці як калектыўны твор беларускай эліты, і сёння застаецца Народнай Бібліяй, здольнай праграмаваць нацыянальную свядомасць чыстых, адмытых ад імперскага каланіяльнага сіндрому людскіх душаў.

Сёння мы ведаем, што душою "Нашай нівы", яе "рухавіком" і (разам з іншымі лідэрамі беларускага руху) "генератарам" яе ідэй, якія ішлі ў народ і вярталіся ў газету, пераўвасабляючыся ў люстэрка народнай экзістэнцыі, былі найперш браты Іван і Антон Луцкевічы. Але якраз іх не заўважыць чытач, які ўпершыню бярэ ў рукі "Нашу ніву", папярэдне не вывучыўшы хоць бы яе фрагментарных архіваў (яны ў 60-я гады фактычна былі закрытыя), успамінаў рэпрэсаваных беларускіх дзеячаў ды іншай "спецфондаўскай" літаратуры. Іван рэдка выступаў у друку (падпісваўся звычайна крыптонімамі), бо ўсё жыццё ахвяраваў дзеля стварэння Беларускага Музея -- яркіх фрагментаў калісьці жывой, але стагоддзямі раскрадзенай культуры. Яго брата Антона прафесіянальным палітыкам зрабіла жыццё, лёс Бацькаўшчыны. Па свайму прызванню і таленту гэта быў журналіст, публіцыст, літаратурны крытык, лектар і настаўнік. Каб выратаваць "Нашу ніву" ад няўмольных рэпрэсіяў, ён вывадзіў на літаратурную авансцэну адносна лаяльных, "ни в чем предосудительном не замешанных", паводле стандарных вызначэнняў жандараў, рэдактараў (З.Вольскі, А.Уласаў), папулярнага ў народзе "беспартыйнага" Янку Купалу, іншых пісьменнікаў. А сам заставаўся ў ценю сваёй газеты ананімным аўтарам шматлікіх яе рэдакцыйных і "бягучых" матэрыялаў.

Між іншым, тактыкі А. Луцкевіча прытрымліваліся беларускія даследчыкі ад Ю. Пшыркова, аўтара артыкула "Янка Купала -- рэдактар "Нашай нівы" ("Беларусь", 1946, N 5--6. С. 31--33) і М. Ларчанкі (ён паспрабаваў рэабілітаваць нашаніўцаў у артыкуле "Некаторыя пытанні гісторыі беларускай літаратуры". -- "ЛіМ", 1956, 17 лістап.) да аўтараў пра "Нашу долю" і "Нашу ніву" ў "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва" (т. 4, Мн., 1987). Каб рэабілітаваць тварэнне братоў Луцкевічаў, нярэдка прыходзілася замоўчваць саміх творцаў. Тым больш, што імя Антона Навіны, упамянутае ў станоўчым ці хоць бы ў "нейтральным" кантэксце, выкрэслівалася цэнзурай.

Анатолю Сідарэвічу ўдалося апублікаваць грамадска-палітычную біяграфію А. Луцкевіча яшчэ да абвяшчэння суверэннай Рэспублікі Беларусь ("Нёман", 1990, N 7. С. 91--167), хоць, паводле сведчання аўтара, без уліку тады яшчэ закрытых архіваў. Яго ж літаратурная спадчына і эстэтычныя погляды ў БССР у пазітыўным плане нават не закраналіся ў артыкулах, манаграфіях і шматлікіх выданнях "Гісторыі беларускай літаратуры". Няма яго імя ў пяцітомнай "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі" (1984--1987), адсутнічае бібліяграфія ягоных твораў, нават тых, дзе не патрэбна даказваць ягонае аўтарства.

Гэты нарыс ёсць спроба фіксацыі публіцыстыкі, літаратурнай крытыкі і эстэтычных медытацыяў А. Луцкевіча як фактаў літаратурнай біяграфіі тыповага беларускага асветніка-адраджэнца "нашаніўскага", пазней і заходнебеларускага этапаў нашай літаратурнай і, шырэй, духоўнай гісторыі.

Для філасофіі і сацыялогіі нашай літаратуры мае значэнне паходжанне А. Луцкевіча ад старадаўняга, хоць і небагатага шляхецкага роду, герб якога "Навіна", на думку некаторых даследчыкаў, парадняе яго з Купалавым родам Луцэвічаў. Беларуская літаратура ў эпоху Рэнесансу пачыналася з творчасці меснічаў і купцоў Францішка Скарыны, Сімяона Полацкага. Шляхта ў XVI--XVII стагоддзях дала славутых ваяроў, рыцараў і дзяржаўцаў, а не літаратараў і вучоных. Творчасць шляхціца В. Цяпінскага была хутчэй фрагментам, чым падзеяй літаратурнай гісторыі, даробкам да спадчыны Ф. Скарыны. А вось ідэя нацыянальнага Адраджэння ў XIX стагоддзі ўзнікла ў асяроддзі адукаванай шляхты каталіцкага веравызнання. Ян Баршчэўскі, Ян Чачот, Кастусь Каліноўскі, Арцём Вярыга-Дарэўскі, Вінцэнт Каратынскі, Аляксандр Ельскі, Альгерд Абуховіч, Янка Лучына, іншыя пачынальнікі беларускай літаратуры, у тым ліку папярэднік "нашаніўскага" Адраджэння Францішак Багушэвіч, былі шляхціцамі-католікамі. Нават сялянскі хлопец Паўлюк Багрым -- не выключэнне: як католік, ён быў вучнем шляхціца-ксяндза В. Магнушэўскага, а як паэту-селяніну ягоная няволя не дазволіла самарэалізавацца.

Але ўжо Багушэвіч быў праўдзівы ідэолаг сялянства, хоць традыцыі і лад жыцця павязвалі яго з фальваркавай шляхтай. Антон Луцкевіч і Ян Луцэвіч (Купала) -- апошнія яркія гістарычныя асобы (першы -- палітык, сацыёлаг і публіцыст еўрапейскага маштабу і еўрапейскай жа культуры, другі -- геніяльны паэт) ад шляхецкага радаводу. І той факт, што яны нават па свайму менталітэту і ладу жыцця сталі сялянамі і народнымі інтэлігентамі, засведчыў: беларускае шляхецтва зыходзіла з гістарычнай арэны на пачатку XX стагоддзя, падарыўшы народу ў пару свае восені, мабыць, самы багаты духоўны плён. Іншыя беларускія шляхціцы -- А. Лявіцкі (Ядвігін Ш.), К. Каганец (К. Кастравіцкі), напрыклад, не падняліся вышэй сярэдняга літаратурнага стандарту, хоць у пэўным сэнсе сталіся настаўнікамі Я. Купалы і А. Луцкевіча.

Важныя этапы на жыццёвым шляху А. Луцкевіча моцна паўплывалі на яго светапогляд, у пэўным сэнсе запраграмавалі грамадска-палітычную дзейнасць. Яго бацька быў афіцэрам расійскай арміі, удзельнікам Крымскай вайны, пазней службоўцам на чыгунцы, у гады маладосці сябраваў з В. Дуніным-Марцінкевічам. Маці Зося Лычкоўская -- з сям'і небагатага шляхціца, сястра ўладальніка фальварка ля вёскі Ракуцёўшчына (за кіламетр ад чыгуначнай станцыі Уша на шляху з Мінска ў Маладзечна), у якога па рэкамендацыі Антона правёў свае летнія канікулы Максім Багдановіч (1911 год). Іх дзеці, старэйшы Іван і малодшы Антон, закончылі расійскую гімназію ў Мінску; у 1902 годзе паступілі ў Санкт-Пецярбургскі універсітэт. Такім чынам, па шляхецкай традыцыі былі ўключаныя ў кантэкст польскай культуры, адукацыю атрымалі расійскую ў элітарным універсітэце, а жылі ў асяроддзі беларускага сялянства, успрымаючы яго сацыяльную і нацыянальную нядолю спагадлівым сэрцам. На іх "беларускі выбар" маглі паўплываць, на першы погляд, "выпадковыя", але вырашальныя падзеі, напрыклад, знаёмства мінскіх гімназістаў з Карусём Каганцом, які, здаецца, валодаў місіянерскім, апостальскім дарам.

Іван Луцкевіч закончыў Маскоўскі археалагічны інстытут (1904) і юрыдычны факультэт Санкт-Пецярбургскага універсітэта (1905). Яго брат Антон вучыўся з вялікімі перапынкамі (былі арышты, высылкі ў Мінск), але таксама скончыў два універсітэты: Санкт-Пецярбургскі па прыродазнаўчаму факультэту і Дэрпцкі па юрыдычнаму факультэту. Яны, такім чынам, належалі да высокаадукаванай эліты беларускай інтэлігенцыі. Першая, прыродазнаўчая адукацыя моцна паўплывала на сацыяльную філасофію і эстэтыку А. Луцкевіча, у рэшце рэшт і на яго палітычныя перакананні. У еўрапейскім і расійскім прыродазнаўстве другой паловы XIX -- пачатку XX стагоддзяў панавалі эвалюцыйная тэорыя і пазітывісцкія плыні. Браты Луцкевічы пад уплывам студэнцкага руху спачатку захапляліся рамантычнай ідэяй ачышчальнага рэвалюцыйнага перавароту, разам з Элаізай Пашкевіч, Вацлавам Іваноўскім, Алесем Бурбісам і інш. стварылі Беларускую Рэвалюцыйную Грамаду (БРГ, 1903), удзельнічалі ў шэрагу рэвалюцыйных акцый. Але галоўным вынікам іх арганізацыйнай працы быў Гурток Беларускай Народнай Асветы (1902), з якога пазней узнік шматаблічны "нашаніўскі" рух і самі газеты "Наша доля", "Наша ніва". Пасля рэарганізацыі БРГ у Беларускую Сацыялістычную Граму (БСГ), асабліва ад яе ІІ з'езда (1906), беларуская палітычная партыя набыла аблічча, блізкае да еўрапейскага эвалюцыяністычнага сацыялізму, зразумела, з захаваннем істотных нацыянальных асаблівасцяў -- арыентацыі на працоўнае сялянства, гарадскіх работнікаў, народніцкую інтэлігенцыю і аграрнай праграмы, нацэленай на падрыў эканамічнай манаполіі польскіх (і спаланізаваных) памешчыкаў, расійскіх каланізатараў і расійскай дзяржавы і царквы (канфіскацыя дваровых, царкоўных, касцёльных, "удзельных" і інш. земляў буйных прыватных і расійска-дзяржаўных уласнікаў, стварэнне нацыянальнага зямельнага фонду, бясплатнае спадчыннае землекарыстанне сялян).

Дзейнасць БСГ і яе стваральнікаў адлюстравана ў мемуарах А. Луцкевіча "За дваццаць пяць гадоў: 1903--1928" (Вільня, 1928) і ў даследаванні А. Сідарэвіча "Антон Луцкевіч" ("Нёман", 1990, N 7. С. 91--167). Відавочна, што ў гэтую гісторыю будуць унесены істотныя карэктывы пасля крытычнага аналізу архіўных крыніц, якія яшчэ не адкрыты і не даследаваны. Але нас тут цікавяць не толькі эмпірычныя факты, але і філасофія беларускай і, шырэй, цэнтральна-ўсходнееўрапейскай гісторыі. Напрыклад, такое пытанне: чаму палітычнай асновай нацыянальна-вызваленчага і культурна-нацыянальнага адраджэння ў гэтым спрадвечна сялянскім і шляхецкім рэгіёне сталі розныя плыні сацыялізму -- ППС у Польшчы, БСГ у Беларусі, аналагічныя партыі ў Літве? Бо еўрапейскі сацыялізм, як вядома, быў і ёсць ідэалогія пераважна "гарадская", адлюстроўвае інтарэсы наёмнікаў у сферах фізічнай ды інтэлектуальнай працы і, як гэткая, выяўляе тэндэнцыі да мадэрнізацыі і сацыяльнай уніфікацыі грамадства, да інтэрнацыяналізму і касмапалітызму. Нацыянальнае адраджэнне, наадварот, па сваёй сацыяльнай аснове ёсць пераважна сялянскі ды інтэлектуалісцкі рух, схільны да сацыяльнага кансерватызму і фундаменталізму. Парадаксальны, на першы погляд, сінтэз сацыялізму і нацыянальнага адраджанізму тлумачыцца, на мой погляд, дэнацыяналізацыяй дваранства, стратай ім нацыянальнага лідэрства, з аднаго боку, выхадам на гістарычную авансцэну працоўных класаў, рэгіянальнай адаптацыяй сацыялізму, з другога боку. Не толькі Ян Луцэвіч (Купала), продкам якога расійская адміністрацыя адмовіла ў прызнанні дваранскага звання, але і бясспрэчны шляхціц Антон Луцкевіч па сутнасці адмовіўся ад сваёй дваранскай атрыбутыкі, усяляк акцэнтуючы сваю сялянска-работніцкую ангажыраванасць. Нават у адроджанай пасля рэвалюцыі 1917 года Польшчы, дзе шляхецкі клас захаваў сацыяльныя прывілеі да ІІ сусветнай вайны, здаў свае палітычнае і часткова культурнае лідэрства. У выніку гэтага новы польскі "вудз" Язэп Пілсудскі аказаўся лідэрам ППС, якая пазней фактычна далучылася да "эндэцкага" нацыяналізму, зарыентаванага не на адраджэнне духоўна-этнічных патэнцый народа, а на імперскую палітыку паланізацыі заваяваных "крэсаў", беларускіх і ўкраінскіх рэгіёнаў, якія мелі за сабою тысячагоддзе самабытнага дзяржаўнага і культурнага развіцця.

**Уладзімір КОНАН.**

(Працяг будзе).

Мікола ШЧАГЛОЎ

# БЕЛАРУСКІ САЛАВЕЙ

## (Міхась ЗАБЭЙДА-СУМІЦКІ)

Больш за усё Забэйду-Суміцкага цягне лірыка. Ягонае выкананьне не адрозьніваецца палкасьцю "смагі крыві" або надрыўным стогнам. Яго стрыманае, мяккае, элястычнае і таму нават і у драматычных мамэнтах бывае цёплае і лірычнае. Гэта не монумэнтальныя палотны, а камарныя, тонкія пастэлі, або зграбныя гравюры, і у гэтым, менавіта, сіла сьпевака, ягоны стыль, ягоная індывідуальнасьць.

Усе тыя падыходы, якія Забэйда-Суміцкі робіць для клясычнае літаратуры, ён пераносіць і на выкананьне беларускае песеннасьці. Я на сваёй практыцы чуў ці мала прыкладаў "народнага выкананьня", пачынаючы ад арганічна-свомага вясковым сьпявачкам, гэтак званага, "белага гуку" да стылізаванага "пэйзанства", а што шмат горш да "лубка" і куплетыстых. Ці мог Забэйда-Суміцкі пайсьці па гэтай дарозе? Звычайна, не. Менавіта, вялікая заслуга сьпевака у тым, што ён узьняў выкананьне народнае беларускае песьні на высокі культурна-эўрапэйскі узровень, яно у яго па-сапраўднаму клясычна-камэрнае.

Ясная фразыроўка, выключная музычнасьць, выдатная дыкцыя, вакальная тэхніка, мілы, прыемны голас, высокая культура, удумлівасьць падыходу -- вось спадарожнікі майстэрскага выкананьня Забэйды-Суміцкага. Ані фарсыроўкі, крыку, ані надрыўнага шэпту, ані гаворкі паміж нотамі, толькі голас і вакал, што ільлецца няспыннаю сьпеўнасьцю канціленаю. Асабліва цікавае прыймо карыстаньня выключна ціхімі гукамі (piano і pianissimo), нечаканымі зьменамі моцнага і слабога гучаньня (ад forte да piano і наадварот) і паступовым узмацненьнем і паслабленьнем гучнасьці (філіраваньня). Сьпявак -- вораг свавольнасьці у адносінах да музычнае тканіны твору. Кажная нотка на месцы. Ён, як вялікі мастак, дасягае патрэбнае яму інтэрпрэтацыі чыста музычна-вакальнымі сродкамі. Перш за усё, ён прымушае быць выразным акторам свой галасавы апарат, надаючы яму своеасаблівую "вакальную міміку", тэмбравую ахварбоўку і толькі потым ужо кліча на дапамогу міміку твару і гэсты цела, якія таксама ніколі не пераходзяць за межы мастацкае меры.

Кажную рэч Забэйда-Суміцкі старанна рыхтуе. Мімаволі тут успамінаеш паэтычную параду М. Багдановіча, якую ён дае паэтам-песьнярам:

"Трэба з сталі каваць, гартаваць
гібкі верш,
Абрабіць яго трэба з цярпеньнем.
Як ударыш ты ім -- ён, як звон,
зазьвініць,
Брызнуць іскры з халодных
каменьняў!"

Толькі так глядзіць на сваю працу і Забэйда-Суміцкі. Ён, сапраўды, гартуе кажны свой сьпеў, цярпліва абрабляе яго, адшліфоўвае да таго часу, пакуль



М. ЗАБЭЙДА-СУМІЦКІ. 6.7.1981 г.

ён ня будзе памастацку зроблены. Затое сьпеў гэты зьвініць, жыве, гучыць і можа знайсьці водгук нават у "халодных каменьняў".

Цяпер спалучэце сродкі эмацыянальнае і майстэрска-мастацкае выразнасьці у выкананьні Забэйды-Суміцкага, дадайце сюды нацыянальную сьведамасьць і гарачае сэрца, і вы атрымаеце аблічча выкананьня Беларускга Салаўя, які, як кажа паэта Ян Чачот, "паміж намі узрос і дапамагае нам песенку сьпяваць".

### ЗАКЛЮЧНАЕ СЛОВА

Мая манаграфія аб Забэйдзе-Суміцкім, быццам, падыйшла да канца. Але перада мною яшчэ шмат матар'ялаў, асабліва рэцэнзіяў розных газэтаў кітайскіх, італьянскіх, расейскіх, беларускіх. З адных іх можна было-б скласьці брашуру, і таму я пакідаю іх для больш грунтоўнага і дэталёвага дасьледваньня. Гэта справа будучыні.Галоўнае, што мне хацелася, я сказаў. Дадаць застаецца ня вельмі шмат, але істотнае. Я слухаў шэраг выканаўцаў народнае беларускае песьні, сярод іх вельмі таленавітых і пачуцьцёвых, і, усё-ткі, ніхто з іх не пранікнуў такі глыбака у таямніцы народнае творчасьці, не адчуў яе своеасаблівасьці, як Забэйда-Суміцкі. Захоўваючы водар беларускіх вёсак, палёў і дубраваў, выразна перадаючы людзкія пачуцьці і настроі, ён падняў выкананьне сьпеваў на вышыню мастацтва, ён літаральна пранёс беларускую песьню па усім сьвеце. Кажная аўдыторыя ведае чар Беларускага Салаўя. Ужо праз некалькі хвілін ягонага сьпяваньня ніхто не памятае, дзе сцэна, эстрада, а дзе заля. Тут усё зраслося у адзіным пачуцьці. Мільгаюць адна за аднэй маляўнічыя кадры настрояў, і усё гэта робіць наш "таленавіты трасфарматар". Ён штурхае аўдыторыю куды хоча, і яна паслухмяна ідзе за ім, аддаецца на ягоную волю. Сьпявак тут быццам перарастае звычайнага чалавека і пертвараецца у рамантычнага асілка-песьняра, што узьдымае народ. Як старадаўны рапсод-Баян, з славутае паэмы "Слова аб палку Ігаравым", гэты "салавей даўнага часу бегае па дрэву думак, лятае арлом пад хмарамі, рыскае Траянаваю сьцежкаю цераз поле на горы!".

Выдатны пясьняр сяньня у росквіце сваіх сілаў і таленту, ён і цяпер захоўвае свой дэвіз -- "наперад", з ім ён ідзе і у будучыню. І шмат яшчэ песьняў, шмат радасьці і мастацкае асалоды ён можа нам даць. Жыві-ж, пясьняр, даўгія, даўгія гады, сьпявай і твары для Бацькаўшчыны, для народу. Беларусь ніколі не забудзе свайго салаўя.

Заканчэнне. Пачатак у № № 5-9.

**Дарагі Міхале! Мы тут ужо дужа непакоімся станам Твайго здароўя. Нашы хлопцы, відаць, табе пісалі. Асабліва не клапаціся, каб на ўсе лісты адказаць. Я перадам усім Тваім знаёмым і сябрам, што Ты чуешся лепш. Шкада, што нельга нам Цябе наведаць у гэтыя цяжкія ў жыцці хвіліны і асабіста прывезці Табе ўсе нашы лепшыя пажаданні і прывітанні з Радзімы. Перадай, дарагі Міхале, доктару Пачэсу наша беларускае дзякуй за яго залатыя рукі і сэрца, за яго клопаты. Хацелася б моцна паціснуць рукі гэтаму цудоўнаму Чалавеку. А цяпер, Міхале, адпачывай, набірайся сілы, здароўя, бадзёрасці, каб хутчэй вецер вясны, дарог і нашых сяброўскіх сустрэч сагрэў Твае сэрца. Праз пару тыдняў прышлю першыя нумары "Полымя". Моцна ўсе Цябе абдымаем, жадаем шмат шчасця і ўсяго найлепшага.**

**Твой Максім ТАНК.**

*Мінск, 15.2.1965 г.*

Віктар ШВЕД

### ЛЯЦІ, МАЯ ПЕСНЯ

*Міхасю Забэйдзе - Суміцкаму прысвячаю*

Чароўных роднай песні слоў
Не загубілі нават межы:
Яна вярнулася ізноў
З далёкай Прагі ў Белавежу.

Дзе толькі велічны, з агнём,
Плыў мілагучны голас звонкі,
Заўсёды разам з Міхасём
Спявала родная старонка.

Журчаў ляніва ручаёк,
Аб нечым пушча гаманіла,
Граў на жалейцы пастушок,
Плыў шчэбет
птушак лёгкакрылых...

Дык хай далей чулліва так
Старонку родную ўслаўляе
Заўсёды малады мастак
І яго песня маладая.

Рыгор БАРАДУЛІН

### ЗАБЭЙДА-СУМІЦКІ

Успаміны вяртаюцца з выраю
на паляну роднага краю,
дзе зноўку зацвіў
забыты сунічнік.
Усіх, хто радзімы выракся,
карае
Забэйда-Суміцкі.

Забэйда-Су-мі-і-цкі!
Гэй-й, да-
лёкае рэха коціцца.
Песня матчына
лашчыцца
лапкай
вярбовага коціка.
Калыханкай
Забэйда-Суміцкі калыша
смутак свой і ўсіхні.
І зноўку пагодзіцца колішні
вясновы, без ніводнай
хмурынкі,
блакіт летуценняў
сінютка-сіні.
Самотная песня
Забэйды-Суміцкага
сумуе па Беларусі, --
яна ж не беларучка.
Яна ж прывыкла араць
і сеяць
у кожным сэрцы зярняты
надзеі.
Спявае Забэйда-Суміцкі.
Раніца.
Сумненне з сумненнем
раяцца.
А смешны на лузе сумнік
лічыць сумна
свае дукаты.
Зямны паклон Вам,
Забэйда-Суміцкі.
Вярнулася песня дахаты...

## ВОДГУЛЛЕ

# НЕ ПРЖЭВАЛЬСКІ, А ПШЭВАЛЬСКІ

**Шаноўны пан рэдактар!**

З цікавасцю прачытаў артыкул Льва Коласава "Родам з Беларусі" пра Мікалая Пшэвальскага. Фактычна вядомы падарожнік паходзіць з Беларусі, быў сынам зрусіфікаванага беларускага шляхціца вайскоўца Міхаіла Пшэвальскага (напісанне Пржэвальскі няправільнае, павінна быць Пшэвальскі, бо так запісана ў дакументах шляхецкіх гэтага роду, які выводзіцца, пра што слушна піша пан Леў Коласаў, ад Карніла Пшэвальскага, напэўна беларуса). Пасля атрымання шляхецтва ад караля Стэфана Баторыя Пшэвальскія перайшлі ў каталіцтва і спаланізаваліся. Паглядзіце: бацька Мікалая -- Міхаіл, сын Казімержа! Нідзе ў праваслаўных не знойдзеце імя Казімерж ці Казімір! Значыць, пазней Пшэвальскія абруселі.

Мікалай Пшэвальскі па заканчэнні навучання ў Акадэміі Генеральнага штаба ў Пецярбургу выкладаў гісторыю і геаграфію ў Варшаўскай школе юнкераў. Пра гэта Леў Коласаў не піша. У 1867 годзе Мікалай Пшэвальскі папрасіў перавесці яго ва Усурыйскі край. Аднак гэта не было падарожжа, а службовы перавод афіцэра царскай арміі. Варта падкрэсліць, што падчас паўстання ў студзені 1863 года Пшэвальскі быў курсантам у Акадэміі Генеральнага штаба ў Пецярбургу. Пасля задушэння паўстання (Пшэвальскага ў гэты час па сканчэнні акадэміі перавялі ў Варшаву) ён не мог вынесці антырасійскай атмасферы і ў 1867 годзе папрасіўся перавесці ва Усурыйскі край. Вядома, ён марыў аб падарожжах: быў жа настаўнікам геаграфіі.

**Мечыслаў ЯЦКЕВІЧ.**

Ольштын, Польшча.

# ЦІ БУДЗЕ АМНІСТЫЯ?

На адной з калегій МУС Беларусі падымалася пытанне аб амністыі зняволеных. Звязана гэта з тым, што ў месцах зняволення адбываюць пакаранне каля 50 тысяч чалавек і "садзіць ужо няма куды". І тут адзіны выхад -- амністыя. Дык ці будзе яна і для каго? На гэта пытанне адказвае начальнік Упраўлення па папраўчых справах МУС **Леанід ЦУРКО**.

-- Пытанне амністыі цяпер актуальнае, -- сказаў Леанід Міхайлавіч, -- і яно сапраўды ставілася на калегіі МУС, але пакуль не разглядалася. Гэта праблема патрабуе стараннага вывучэння. Трэба разабрацца, хто сядзіць і за што. А сярод зняволеных ёсць людзі, не небяспечныя для грамадства... На мой погляд, сёння прыняцце закона "Аб амністыі" не ўскладніла б існуючае крымінагеннае становішча. Хаця, упэўнены, сярод насельніцтва такі крок наўрад ці выкліча адабрэнне.

Атрымліваецца: амністыя патрэбна, але ці рызыкне пайсці на гэты крок Вярхоўны Савет рэспублікі -- пакуль невядома.

АБАРВАНАЯ ПЕСНЯ Уладзіміра КЛІШЭВІЧА

# НАВАТ ПУШЧЫ АД БОЛЮ ГАЛОСЯЦЬ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Ён прыязджаў на Радзіму яшчэ некалькі разоў, адзін і з малодшым сынам Сяргеем, лячыўся ад цяжкага артрыту на Каўказе, дзе сустракаўся з Вісарыёнам Гарбуком, і быў моцна ўсцешаны гэтай сустрэчай з сябрам юнацтва. Дарэчы, у Мінску У.Клішэвіч таксама хацеў сустрэцца з паэтамі, з кім разам вучыўся ў педагагічным інстытуце, але на заклік адгукнуўся толькі Сяргей Грахоўскі.

У пісьмы, што прыходзілі з Лос-Анджэлеса, Уладзімір Клішэвіч часта ўкладваў свае вершы. Яны краналі шчырасцю і непраходзячым смуткам па страчанай Бацькаўшчыне, пастаянным імкненнем да яе, вечным пакаяннем і адчуваннем сваёй віны перад ёю.

**Ты, Радзіма, мяне прабач!**
**Я як-небудзь сябе супакою,**
**Дзень спаткання --**
**мой радасці плач**
**Ад таго, што я разам з табою.**

Мусіць, і на Захадзе беларусы адчуваюць сябе па-рознаму.

Уладзімір Клішэвіч не змог прыжыцца ў Амерыцы, і ў яго вершах білася і трапятала думка-папярэджанне іншым, што чужая краіна прывабная толькі здалёк, што "іншаземныя маякі тваю ноч не асвецяць". Ці адбыўся Клішэвіч-паэт? Думаю, не зусім. Яго песню абарвалі на самым пачатку, а потым без Радзімы, без роднай глебы ёй цяжка было ўваскрэснуць, і ў вершах гучаў толькі смутак.

І ўсё ж, паколькі гэты смутак ішоў з самай глыбіні збалелай душы чалавека таленавітага і неабыякавага, вершы хвалявалі.

**Калі б сюды буслы ляталі,**
**Калі б тут ластаўкі жылі,**
**Мы б крыху меней сумавалі**
**За морам на чужой зямлі.**

-- Вельмі ж хораша! -- сказала пра верш Канстанцыя Буйло, калі я ёй у Маскве паказала некалькі твораў нашага земляка. -- Па адным гэтым вершы бачу, што Клішэвіч -- паэт. І як натуральна, лёгка выліўся верш. Мне падабаюцца паэты, якія пішуць на адным дыханні. У вершаваных радках выказваюць сябе да самага донца.

Прачытаўшы верш Уладзіміра Клішэвіча "Гусі", наш зямляк з Канады А.Новік папрасіў адрас аўтара, напісаў, што падабраў да верша мелодыю і часта напявае ў цяжкія хвіліны:

**Праляцелі гусі па-над**
**цёмным борам,..**
**Пагублялі смутак,**
**пагублялі гора.**
**.................................**
**Ой, вазьміце, гусі, з сабой**
**на хвіліну,**
**Бо я ў гэтым краі**
**без пары загіну.**

"Паехаў бы пакланіцца Клішэвічу, што піша не толькі сваю тугу, але і многіх з нас, беларусаў, па нашай Радзіме".

Тады і выспела думка сабраць вершы Уладзіміра Клішэвіча і выдаць невялікім зборнікам у серыі "Бібліятэчка газеты "Голас Радзімы". Але без санкцыі аддзела прапаганды ЦК КПБ мы не маглі сабе такое дазволіць. Доўга давялося абіваць высокія парогі, даказваючы, што кніжка вартасная, бо адпавядае настроям і пачуццям беларусаў, якія жывуць за межамі Бацькаўшчыны, што аўтар не злачынца і не здраднік і што яго творы і пачуцці заслугоўваюць павагі.

У рэшце рэшт зборнік "Сняцца дні мне залатыя" быў выдадзены, але толькі пасля таго, як у ім з'явілася паэма "Шлях у светлае". І рэдакцыя, і аўтар разумелі слабасць і кан'юнктурнасць твора, але надта ж хацелася, каб кніжка выйшла ў свет. Супакойвалі сябе тым, што вялікія і больш самавітыя паэты пісалі часам творы, далёкія ад паэзіі, каб толькі мець магчымасць друкаваць і сапраўднае. Дык ці такі ўжо вялікі грэх узяў на душу Клішэвіч?

Аднак учынку гэтага і наогул з'яўлення на Радзіме паэтычнага зборніка Клішэвічу не даравалі яго суродзічы за мяжой. Пасля выхаду ў Лондане паэмы "Васіль Каліна" Клішэвіч атрымаў ад Міхася Кавыля водгук-захапленне, дзе ён параўноўваў аўтара з Лермантавым і Грыбаедавым. "У "Васіле Каліне", як і ў "Горе от ума", -- пісаў М.Кавыль, -- шмат такіх пэрлаў, якія, думаю, будуць жыць у народзе як пасловіцы: "Радні ты іх ці не радні, а ўсё ж яны з адной радні", "Ніякай радасці не маю і мець назолы не хачу", "На тварах радасць не цвіце, калі пустэча ў жываце" і шмат іншых. Ёсць і ўдалыя метафарычныя сказы, а галоўнае -- палёт думкі, шырыня, размах. Маладзец ты, скажу па сумленні. Хвалю. Золак збіраецца напісаць артыкул пра тваю творчасць.

Твой М.Кавыль."

"Гэта не ліст, а ода, асанна Клішэвічу, -- пісаў нам Уладзімір Сідаравіч. -- І раптам М.Кавыль стаў маім самым страшным ворагам. Чаму? Я наведаў Радзіму, у Мінску выдалі мой зборнік вершаў "Сняцца дні мне залатыя". Там ёсць раздзельчык "Шлях у светлае". Вось гэтага светлага Клішэвічу і не даравалі. Ад шаноўнага паэта, які ўзняўся да манументальнасці і нагадваў Лермантава, застаўся Уладзік-гіцаль, ад роду абібок, выскачка, савецкі палітрук і гэтак далей. "Спачатку на чалавека маліцца, а пасля нахабна на яго пляваць. А пара сур'ёзна, хоць перад хуткай магілай падумаць", -- сумна заканчваў ліст Клішэвіч, нібы прадчуваючы свой нядоўгі век. Ён памёр 14 лістапада 1978 года ва ўзросце ўсяго 64 гадоў.

З ліста Марыі Міхайлаўны, жонкі Клішэвіча, мы даведаліся, што быў ён у доме адзін, калі здарыўся сардэчны прыпадак, і выкліканая суседкай хуткая дапамога ўжо толькі засведчыла смерць. "Сэрца майго дарагога мужа перастала біцца, -- пісала Марыя Міхайлаўна. -- А мне яшчэ давядзецца нагаравацца на чужыне адной. У нас трое сыноў. Двое ўжо дарослыя, працуюць і жывуць самастойна. Сярожу патрэбна вялікая бацькоўская дапамога. Ці справлюся з гэтым абавязкам?"

Больш ніякіх звестак ад амерыканскіх Клішэвічаў мы не мелі і не ведаем, як склаўся іх далейшы лёс.

А ў Беларусі, на Случчыне, і цяпер жывуць сваякі Уладзіміра Клішэвіча і проста добрыя знаёмыя. Яны ведалі яго маладым, жылі побач у ваенныя гады і ўспамінаюць сёння са спачуваннем і шкадаваннем.

Глафіра Мікалаеўна Пугачова жыве ў Слуцку, гадуе ўнукаў, а некалі з Уладзімірам Клішэвічам іх звязвала сардэчная дружба.

-- Ці паверылі вы, што Клішэвіч -- вораг народа, зрабіў штосьці страшнае супраць свайго народа, калі даведаліся, што яго арыштавалі? -- спыталі мы ў жанчыны.

-- Зусім не паверыць мы проста не маглі, таму што такое мелі выхаванне: мы самыя справядлівыя, самыя непабедзімыя, і ўсё ў нас робіцца правільна. Аднак у душы я моцна сумнявалася. Чаму? Таму што ён быў вялікім працаўнікам, з сялянскай сям'і, бацька з маці таксама аддана працавалі на зямлі. Савецкая ўлада сапраўды нам дарогу адкрыла. Як жа супраць яе ён мог пайсці?!

І ўсё ж абвяргаць, нешта даказваць, абараняць чалавека ніхто не рашаўся, такая абстаноўка была, нават адзін з адным не пагаворыш. Баяліся.

Клішэвічу далі 10 гадоў і саслалі на Калыму. Яму можна было пасылаць адзін ліст у месяц, і Глафіра Мікалаеўна пісала, бо ведала, як неабходна чалавеку маральная падтрымка. Згадваючы ваенныя гады, сказала:

-- Хачу, каб вы ведалі: пра яго ніхто ніколі не сказаў, што ён некага пакрыўдзіў, не дапамог. Яго аднавяскоўцы, калі прыязджалі ў Слуцк па справах ці на базар, спыняліся ў яго, коней на ноч у яго двары пакідалі. Мне здаецца, ён працаваў у немцаў толькі таму, што так скланіся абставіны, што проста трэба было неяк жыць.

-- Дзядзьку Валодзю пакрыўдзілі, моцна пакрыўдзілі ні за што, -- сказаў пра Клішэвіча яго пляменнік Іван з Краснадворцаў. -- Яму цяжка было перажыць несправядлівасць, але супраць свайго народа ніколі не ішоў. Яго жыццё прымусіла быць у немцаў.

-- А чаму было не пайсці ў партызаны, як рабілі іншыя?

-- А хіба яму паверылі б?! Адразу расстралялі б. Хто б даў веры "ворагу народа"? Перад самай вайной Валодзю прывезлі з Калымы ў Мінск на перасуд. Калі калону зняволеных, якую гналі з сабакамі ў бок Магілёва, разбамбілі нямецкія самалёты, ён уцёк. А пасля, як фронт адышоў, вярнуўся ў Краснадворцы, жыў у сваёй хаце, абрабляў зямлю, касіў.



Але адседзецца Клішэвічу не далі. Яго выклікалі ў Старобін і, ведаючы, што ён сядзеў у турме, прапанавалі работу ў паліцыі. Яму далі спісы партыйцаў, савецкіх работнікаў і сказалі, што гэтыя людзі павінны быць расстраляны. Дапусціць такога Клішэвіч не мог і, знішчыўшы дакументы, уцёк у Крывічы да дваюраднага брата Івана. Там яго паліцыя і злавіла, звязанага прывезлі назад у Старобін. Каб не Палікарп Манькоў, з якім разам вучыліся і разам сядзелі, Клішэвіча расстралялі б. Манькоў працаваў у Слуцку перакладчыкам у немцаў і, прыехаўшы на бронетранспарцёры, змог дапамагчы сябру. Бургамістрам у Слуцку быў немец, які застаўся яшчэ з першай сусветнай вайны, а яго намеснікам прызначылі Клішэвіча.

-- Мяне ён забраў да сябе з Краснадворцаў, і я быў пры ім пасыльным, няньчыў маленькага Валерыка, першага дзядзькавага сына, -- расказваў Іван Апанасавіч. -- Ён мне стол паставіў, кніжкі паклаў, вельмі хацеў, каб я вучыўся. Сам надта любіў Ясеніна. І ў мяне ўсё пытаўся: ведаеш, хто такі Ясенін? Сам кніжку выпусціў. Называлася "Песняры Случчыны". Падпісаў на памяць, але парвалі, адабралі яе ў мяне. Калі немцы адступалі, усіх выклікалі ў Мінск. І дзядзька Валодзя паехаў, а жонцы сказаў, каб была напагатове, ён заедзе за ёю і сынам. Мы з цёткай Марыяй запакавалі кнігі, сабралі чамаданы і чакалі. Пасля абеду яна сказала мне: "Ідзі, Ваня, дадому, толькі не дарогай, а па вёсках. Думаю, што мяне з Валерыкам Валодзя не пакіне". І сапраўды, ён заехаў за сваімі, і я іх больш ніколі не бачыў. Бо калі дзядзька ў 70-я гады прыязджаў у Мінск, яму не дазволілі наведаць вёску і нам не раілі з ім сустракацца.

А ў Краснадворцах Уладзіміра Клішэвіча памятаюць маладым, прыгожым і спрытным. "Калі я быў студэнтам Мінскага педінстытута, я быў самым лепшым бегуном, скакуном уверх і ў даўжыню. Не думаў тады, што гэты танцор і скакун ледзь некалі будзе цягаць пакалечаныя ногі", -- пісаў Клішэвіч у пісьме ў рэдакцыю.

-- Я нібы сёння бачу дзядзьку Валодзю ў чорным касцюме і белай кашулі, -- успамінае Марыя Клішэвіч, жонка Івана Апанасавіча. -- Было тое яшчэ да вайны. Ішоў ён па вуліцы, павярнуў к нашаму дому, пераскочыў праз брамку і пайшоў... Помню, што навальніца збіралася, вісела над намі чорная хмара. А ён лёгка так пераскочыў і пайшоў...

Сёлета ў лютым паэту Уладзіміру Клішэвічу споўнілася б 80 гадоў.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

---

**Уладзімір КЛІШЭВІЧ**

## ЖУРАЎЛІ

**У блакіце восені з крыкам паплылі,**
**Родны край пакінуўшы, сумна жураўлі.**

**Сонца ў срэбра глянула позняе расы,**
**Ціха аддаляюцца птушак галасы.**

**Галасы даносяцца ўсё радзей, радзей.**
**Патанулі крыллі іх у сіняй вадзе.**

**Вядуць гоман з водамі асака, чарот.**
**Туманамі сцелецца сінява балот.**

**Я стаю і думаю, а на сэрцы сум.**
**Ой, куды я цяжкае гора панясу!**

**Вербы з болем журацца, гледзячы ў ваду.**
**Вецер жоўтай замеццю з поўначы падуў.**

**У блакіце восені з крыкам паплылі,**
**Родны край пакінуўшы, сумна жураўлі.**

*Мінская турма. Жнівень, 1937.*

## КОНЬ

**Сам худы, змардавана-санлівы,**
**Цяжка крочыш з нагі на нагу.**
**Сніш ты часта зялёныя нівы,**
**Веснавую касьбу мурагу.**

**На каменным і брудным бруку,**
**Ўсё працуючы дзень пры дні,**
**Надаела табе праз муку**
**Пад дажджом і пад спёкай гніць.**

**Я вітаю цябе, вітаю,**
**У вачах тваіх бачу слязу.**
**Я таксама няшчасце глытаю,**
**Свой цяжар непамерны вязу.**

**Толькі доля мая другая,**
**Хоць аднолькава цяжка нам:**
**Гаспадар цябе ў воз запрагае,**
**Я ж сябе запрагаю сам.**

# ПРАЕКТ СВАЕЙ ПАТРЫЯРХІІ

Я.Руцкі, рыхтуючыся да Сабора ў Кобрыне, вокамгненна разаслаў запрашальныя лісты ўсім прыхільнікам ідэі вялікакняскай патрыярхіі. Але ягоныя клопаты дзеля незацікаўленасці і пасіўнасці праваслаўнага боку сталіся марныя. Лічачы, што ім навязаны гэты Сабор, праваслаўныя не з'явіліся ў Кобрын.

Чарговая няўдача не спыніла вуніяцкага мітрапаліта, ягоная ўпартасць, здавалася, не ведала межаў. Але цяпер ён канчаткова пераканаўся: без гуртавання аднадумцаў і стварэння шырокай партыі прыхільнікаў праекта вялікакняскай патрыярхіі мэты не дасягнуць. І пачынае пошук новых уплывовых асобаў, здольных змяніць сітуацыю на яго карысць.

У 1626 годзе Я.Руцкаму ўдаецца далучыць да сваёй партыі былога рэктара Кіеўскай брацкай школы, ігумена Дубненскага манастыра Касьяна Саковіча разам з падпарадкаванымі яму манахамі. У тым жа годзе вунію прыняў Кірыла Транквіліён-Стаўравецкі, аўтар знакамітых твораў "Зярцала Багаслоўя" (1618) і "Евангелле вучыцельнае" (1619). 26 сакавіка 1626 года Я.Руцкі прызначыў гэтага надзвычай таленавітага чалавека архімандрытам Чарнігаўскіх вуніяцкіх манастыроў.

Як ні дзіўна, але Я.Руцкі змог далучыць да справы новай вуніі свайго колішняга апанента, галоўнага абаронцу праваслаўных -- Мялета Сматрыцкага, што адразу намнога павялічыла шанцы на поспех. Уплыў мітрапаліта на Мялета, як і наогул уся гісторыя з пераходам апошняга ў лагер вуніятаў, -- гэта адна з даўніх, дасюль не разгаданых таямніцаў нашае мінуўшчыны. Паспрабуем усё ж адказаць на пытанне, чаму лідэр праваслаўных стаў на бок Я.Руцкага, што прымусіла яго зрабіць такі неардынарны крок?

Усё пачалося па вяртанні Мялета Сматрыцкага з працяглай вандроўкі на Усход, здзейсненай у 1624--1625 гадах, каб пагутарыць з патрыярхам аб "сапраўднай праваслаўнай веры". Вынік, аднак, расчараваў Мялета, бо на Усходзе, паводле ягоных слоў, ён убачыў "ерась", а сам патрыярх Кірыла Лукарыс асноватворныя хрысціянскія догматы вызнаваў нібыта ў духу Кальвінавай навукі. Ёсць усе падставы меркаваць, што менавіта гэтае "адкрыццё" і знаёмства з сапраўдным становішчам у паняволенай туркамі Канстанцінопальскай патрыярхіі кардынальна змянілі погляд Мялета на будучыню вялікакняскай Праваслаўнай Царквы. У яго свядомасці адбыўся пералом, і ён пакрысе пачаў схіляцца да думкі, што ажыццяўленне праекта Я.Руцкага, скіраванага на ўтварэнне ўласнай патрыярхіі, -- найлепшае выйсце для Царквы.

Вуніяцкі мітрапаліт тым часам паслаў да Мялета ў Кіеў манаха Яна Дубовіча, праз якога прасіў аб сустрэчы, каб якраз пачаць перамовы пра "свайго патрыярха, накштал такога, які ёсць у зямлі Маскоўскай". Нягледзячы на тое, што ў душы Мялета ўжо было пасеяна зерне сумневу, ён, аднак, тады не адважыўся сказаць Руцкаму штосьці пэўнае і адаслаў Дубовіча назад ні з чым.

Я.Руцкі настойліва дамагаўся свайго. Паколькі прамыя звароты да Мялета заставаліся безвыніковымі, ён пачаў дзейнічаць праз уплывовых князёў Януша Заслаўскага і яго сына Аляксандра. Менавіта апошні і дапамог Руцкаму паставіць у гэтай справе кропку. Пасля канфліктаў з праваслаўнымі брацтвамі, якія змагаліся за аўтаномію, Мялет Сматрыцкі апынуўся ў вельмі цяжкім матэрыяльным становішчы. У гэтай сітуацыі Аляксандр Заслаўскі на параду Я.Руцкага і прапанаваў яму пасаду архімандрыта Дзерманскага манастыра з умовай, што ён будзе дбаць пра ўз'яднанне праваслаўных з вуніятамі, каб пазней заснаваць вялікакняскую патрыярхію. І Мялет Сматрыцкі даў згоду, тым больш што ўнутрана ён ужо быў досыць падрыхтаваны да такога кроку.

Нарэшце 6 чэрвеня 1627 года ў Дубне адбылося таемнае спатканне Я.Руцкага і М.Сматрыцкага, з якога й пачынаецца фармальны адлік прыналежнасці дзерманскага архімандрыта да Вуніяцтва.

М.Сматрыцкі паставіў Я.Руцкаму пяць умоваў: яго пераход на бок вуніятаў павінен захоўвацца ў таямніцы да часу атрымання адказу з Рыма; ён па-ранейшаму можа пасвячаць праваслаўных на духоўныя пасады ў падуладных яму Уладзімірскай, Полацкай і Луцкай епархіях: яму не забараняецца жыць у Дзерманскім манастыры сярод праваслаўных манахаў; падчас богаслужэнняў дазваляецца згадваць канстанцінопальскага патрыярха; урэшце, за ім застаецца сан архіепіскапа, які пажадана захаваць і надалей.

Я.Руцкі прыняў умовы Мялета, але, каб папярэдзіць магчымыя непаразуменні з боку святой курыі, ён накіраваў папу рымскаму ліст, дзе патлумачыў матывы сваёй згоды, а таксама давёў, якая карысць будзе ад таго, калі пераход Сматрыцкага ў вунію часова застанецца ў сакрэце. Так, паводле словаў мітрапаліта, Мялет, захоўваючы таемна сваю прыналежнасць да вуніі, паспрабуе схіліць да яе і канстанцінопальскага патрыярха Кірылу Лукарыса; паколькі ён карыстаецца вялікім аўтарытэтам сярод праваслаўных, то зможа падрыхтаваць многіх з іх да прыняцця вуніі; будзе садзейнічаць скліканню агульнага Сабора; надрукуе свой вуніяцкі "Катэхізіс", дамогшыся, каб ён быў ухвалены праваслаўнай духоўнай цэнзурай. Усе пералічаныя акалічнасці, сцвярджаў Я.Руцкі, прымушаюць на нейкі тэрмін канспіраваць пераход М.Сматрыцкага на бок вуніі.

Пасля падзеяў у Дубне Я.Руцкі мог цалкам пакладацца на М.Сматрыцкага. Яны супольна пачалі рыхтавацца да чарговай спробы ўз'яднання праваслаўных з вуніятамі.

21 жніўня 1627 года М.Сматрыцкі па дамове з Я.Руцкім піша ліст канстанцінопальскаму патрыярху Кірылу Лукарысу. Ахарактарызаваўшы становішча Праваслаўнай Царквы ў Княстве як катастрафічнае, ён заклікаў патрыярха "дапамагчы ўсталяваць мір паміж тымі, хто прыняў Адзінства, і тымі, хто не жадае яго, а гэтаксама паспрабаваць спыніць барацьбу паміж намі і адвесці ад ерэтычных учынкаў". М.Сматрыцкі, звяртаючыся да К.Лукарыса, пасля доўгіх пераконанняў зазначаў: "Цяпер, бадай, немагчыма пазбегнуць царкоўнага яднання. Неўзабаве яно ўсё роўна будзе здзейснена -- сваёй воляй або пад прымусам. Таму лепей зрабіць гэта зараз сваёй воляю... Дай Божа, каб святая справа задзіночання спраўдзілася праз пасрэдніцтва Вашага прэасвяшчэнства і яшчэ пры нашым жыцці".

У многім пад уздзеяннем Я.Руцкага і з ягонага блаславення М.Сматрыцкі ў 1627--1628 гадах завяршыў працу з "Катэхізісам", "Апалогіяй" і трактатам "Аб шасці розніцах у вучэнні Усходняй і Заходняй Цэркваў", якія спрычыніліся да фармавання царкоўна-тэалагічнай і этычнай дактрынаў Вуніяцтва. З гістарычных крыніц дакладна вядома, што мітрапаліт рэдагаваў гэтыя творы Мялета, удакладняў шэраг палажэнняў і фактычна быў тады яго ідэйным настаўнікам. Без сумневу, шэраг думак, выказаных у творах М.Сматрыцкага, належаць Я.Руцкаму.

Для вуніяцкага мітрапаліта і ягоных аднадумцаў галоўнае было сцвердзіць тэзіс, што паміж Усходняй і Заходняй Цэрквамі няма прынцыповых разыходжанняў, а іх падзел -- штучны і таму яго належыць як мага хутчэй пераадолець.

Працяг.
Пачатак у № 9.

Іван САВЕРЧАНКА.

# РЭПЕРТУАР НА ЎСЕ ЎЗРОСТЫ

(Працяг.
Пачатак на 1-й стар.).

Да таго ж ад Мінска да Маладзечна некалькі дзесяткаў кіламетраў. Электрычкі ходзяць амаль што кожную гадзіну. А ў сталіцы ёсць Дзяржаўны тэатр лялек. Вядома, што тыя кіламетры для маладзечанцаў, якія захочуць паглядзець сапраўднае, на высокім прафесійным узроўні прадстаўленне! Значыць, задуманая справа загадзя асуджана на правал?..

-- Такія апасенні былі, -- згадвае дырэктар Маладзечанскага тэатра лялек Ала Палякова. -- Але больш за ўсё нас турбавалі так званыя надзённыя клопаты. І, у першую чаргу, дзе знайсці памяшканне. Выручылі будаўнікі, далі месцейка ў сваім Доме культуры. Не шыкоўнае, самі бачыце: у цеснаце (Ала Уладзіміраўна паказвае на дырэктарскі пакойчык, а пасля вядзе ў вытворчы цэх, дзе ў адной зале працуюць мастак, швачкі, майстар па вырабу лялек і інш.).

А што турбавала галоўнага арганізатара новай установы культуры?

-- Перш за ўсё, якім шляхам ісці, -- адказвае С.Юркевіч. -- Стварыць тэатр, узяўшы ў рэпертуар тое, што дзесяткамі гадоў ідзе на сцэне і ў Беларусі, і ў іншых былых савецкіх рэспубліках, ставіць толькі забаўляльныя дзіцячыя спектаклі -- гэта, як кажуць, ужо было.

І тут жа падумалася: а чаму толькі для дзяцей мы павінны працаваць, чаму не стварыць рэпертуар на ўсе ўзросты, і навошта паўтарацца. На пачатку шляху наш творчы калектыў вызначыў свой накірунак, галоўнымі прынцыпамі якога было: прапагандаваць родную мову, усе спектаклі павінны ісці на беларускай мове; тэматыка спектакляў таксама павінна быць падабрана з жывога беларускага фальклору, лепшых твораў нашых пісьменнікаў. Сёння, напрыклад, пасля чатырох гадоў існавання, з дзесяці ас-




ноўных пастановак пераважаюць напісаныя па творах У.Караткевіча і іншых беларускіх пісьменнікаў. Вядома, не адмаўляемся і ад замежнай класікі. Цяпер працуем над спектаклем па кнізе Кіплінга "Маўглі".

-- Сяргей Фёдаравіч, вы гаворыце -- творчы калектыў. Але як вам удалося яго сабраць, хто вашы аднадумцы, колькі іх?

-- Нават самы ўдала падабраны рэпертуар нішто, калі не будзе, як вы правільна падмецілі, аднадумцаў. Сабраць жа іх на першым часе, калі ствараўся тэатр "Батлейка", было вельмі і вельмі складана. Няхай не пакрыўдзяцца на мяне маладзечанцы, але адразу знайсці артыстаў тут, у раёне, я не змог. Патрэбны былі творцы, ды яшчэ такія, каб разумелі мяне, з лёту лавілі мае думкі. Хаця я ніколі не "гасіў" творчую ініцыятыву кожнага, прыслухоўваўся і да пажаданняў, і да слушных парад артыстаў, раіўся з імі. Ад гэтага толькі выйграе агульная справа...

-- Відаць, было да каго прыслухоўвацца?

-- Так, -- пачынае называць імёны рэжысёр-пастаноўшчык. -- У тэатр я запрасіў заслужанага артыста БССР Уладзіміра Калашнікава, яго жонку Кацярыну Мікалаеўну, Любу Цяўлоўскую -- усе яны з Дзяржаўнага тэатра лялек. Побач з ветэранамі працуюць маладыя: Барыс Трусій, Таццяна Паўлючук... Уся трупа складаецца з дванаццаці чалавек.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

## *ЗАСЛУЖАНАЯ АРТЫСТКА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ Ірына ШУМІЛІНА*



**Аматары фартэпіяннай музыкі добра знаёмыя з выканальніцкім майстэрствам піяністкі Ірыны Шумілінай (на здымку). Заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь выступае з сольнымі канцэртамі не толькі ў Мінску. Геаграфія яе гастрольных паездак шырокая. Яна іграе з сімфанічнымі і камернымі аркестрамі, з вядомымі дырыжорамі Ф.Мансуравым (Масква), В.Георгіевым (Санкт-Пецярбург), Н.Ярві (Талін), Кацуо Ямада (Японія), Ю.Дамаркасам (Вільнюс). Ігру беларускай піяністкі слухалі ў Германіі, Італіі, Індыі.**

**У рэпертуары Ірыны Шумілінай, акрамя твораў рускіх і замежных класікаў, вялікае месца займаюць творы беларускіх кампазітараў розных пакаленняў: М.Аладава, Я.Глебава, Г.Вагнера, І.Лучанка, У.Будніка і іншых. Часта піяністка з'яўляецца першым выканаўцам многіх твораў гэтых аўтараў.**

**Захапленне фартэпіяннай імправізацыяй абудзіла ў І.Шумілінай цікавасць да стварэння музыкі. Ёю напісаны шэраг песень, інструментальных п'ес, фартэпіянных транскрыпцый.**

**Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ.**

# РЭПЕРТУАР НА ЎСЕ ЎЗРОСТЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й, 7-й стар.).

Калі я пазнаёміўся з артыстамі і іншымі супрацоўнікамі тэатра, то зразумеў, што амаль усе яны мінчане. Складвалася ўражанне, быццам бы ў Маладзечна прыехаў на доўгатэрміновыя гастролі сталічны калектыў. Дык ці можна лічыць новы тэатр маладзечанскім? Гэтыя сумненні я выказаў Сяргею Фёдаравічу.

-- З'ява і сапраўды ненармальная, -- адказаў Юркевіч. -- Але гэта -- пакуль. Нам жа ўсяго чатыры гады! Плануем пры тэатры адкрыць студыю, куды запросім таленавітых хлопцаў і дзяўчат, вучняў маладзечанскіх школ. На прыкмеце ўжо ёсць нямала моладзі, з якой можна ўзгадаваць добрых артыстаў. Лепшыя з іх, спадзяёмся, пасля нашай студыі пойдуць вучыцца далей, каб удасканальваць прафесійнае майстэрства.

...Два разы на тыдзень у Доме культуры будаўнікоў ідуць спектаклі тэатра лялек. Зала, разлічаная на 250 чалавек, заўжды запоўнена. На жаль, даваць больш прадстаўленняў тут нельга, бо гаспадары, будаўнікі, таксама прыходзяць у ДК, каб пагладзець кінафільмы, займацца мастацкай самадзейнасцю. Сапраўды -- цесна.

Што рабіць? Дзе ўзяць грошы на існаванне?

-- Праблему пакуль удаецца вырашаць, -- тлумачыць у канцы гутаркі Ала Палякова. -- Лялечнікі -- заўсёды жаданыя госці. І мы ездзім у дзіцячыя сады, школы, працоўныя калектывы. І не проста, як кажуць, адбываем нумар. Едзем, напрыклад, у дзіцячы садок -- вязём казку "Піліпок і ведзьма", у школу -- прадстаўленні па творах Караткевіча, дзе глядач не толькі бачыць само дзейства, але чуе нашу сакавітую беларускую мову, знаёміцца з сапраўдным фальклорам, народнымі традыцыямі. Для людзей больш сталага ўзросту падбіраем сцэнкі з жыцця сучаснікаў-гараджан: тут і інтэрмедыі, і пародыі, і гумар... Адным словам, рэпертуар на любы густ. Вось за гэта нас і любяць у Маладзечне, мы адчулі, што патрэбны тут.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**







**НА ЗДЫМКАХ: рэжысёр Сяргей ЮРКЕВІЧ праводзіць рэпетыцыю; галоўны мастак тэатра Валерый РАЧКОЎСКІ, канструктар па вырабу лялек Аляксандр ЗАНКЕВІЧ і мастак-скульптар Вольга ЗАНКЕВІЧ.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

СПОРТ

# ДА ПАБАЧЭННЯ, АЛІМПІЯДА!

"Дарагія сябры! Сардэчна вітаю вас з паспяховым выступленнем на Алімпіядзе... Каманда нашай рэспублікі заняла высокае, пятнаццатае месца сярод больш чым 60 краін, якія прымалі ўдзел у Алімпійскіх гульнях".

**(З віншавання Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М. ГРЫБА).**

"А чаму і не адзначыць дэбют беларускіх спартсменаў на Алімпіядзе? Выступілі ж яны дастойна. Ды аднаго Ігара Жалязоўскага, напэўна, трэба было сустракаць з аркестрам!"

**(Старшыня НАК Беларусі У. РЫЖАНКОЎ).**

Патух агонь Алімпіяды. З гасціннага Лілехамера раз'ехаліся па сваіх краінах спартсмены. Адных, як скажам, нарвежцаў Коса і Дэлі, расіянку Любоў Ягораву ці італьянку Дзі Чэнта, сустракаюць, як нацыянальных герояў, іншых -- з разуменнем і спачуваннем. Бо не кожнаму было суджана стаць чэмпіёнам. Пашанцавала больш моцным, хаця не абышлося і без выпадковасцей: хтосьці ўпаў, як гэта было ў слаламе, некаму не пашанцавала на лыжні -- стартаваў раней мацнейшых. Спрадвечныя прычыны, яны прысутнічаюць на кожным спаборніцтве.

Звернемся да галоўнага і больш блізкага нам -- выступлення беларускіх спартсменаў. У нас засталося адчуванне незадаволенасці. Два срэбраныя медалі -- Ігара Жалязоўскага і Святланы Парамыгінай. Малавата. Мы разлічвалі на большае.

Хутчэй за ўсё не хапіла вопыту. Не ва ўсіх відах, за выключэннем канькоў (мужчыны) і біятлона, былі лідэры, якія б змаглі павесці за сабой іншых, паказаць прыклад. "Правалілі" лыжныя гонкі, не ва ўсіх відах выставілі ўдзельнікаў.

Але гэта -- пачатак, дэбют! Урокі Лілехамера, трэба спадзявацца, пойдуць на карысць. І, як выказаўся адзін з членаў НАКа, што прысутнічаў у Лілехамеры, зборную Беларусі судзіць строга не трэба. Тым больш, што ў выніковай табліцы Гульняў наша каманда стаіць вышэй за многія каманды-ўдзельніцы старажытных Алімпіяд. А сярод краін СНД па набраных ачках мы займаем трэцяе месца, апярэдзіўшы нават Украіну.

Што цяпер? Думы аб будучай Алімпіядзе. Падрыхтоўчы перыяд стане для нас яшчэ больш цяжкім. Не хацелася б называць "старымі" нашых лідэраў, тых, хто быў мацнейшым у беларускай камандзе ў Лілехамеры. Толькі нікуды нам не дзецца ад факта: яны, як кажуць, сыдуць з дыстанцыі ў бліжэйшы час. А за іх плячыма пакуль не бачыцца дастойнай змены. Гэта не можа не хваляваць.

## ЗВЯРТАЕМСЯ ЗА ДАПАМОГАЙ

У 1879 годзе ў нас, у вёсцы Лельчыцы аднайменнага раёна Гомельскай вобласці, на жывапісным беразе ракі Уборці, стаяў драўляны будынак Свята-Троіцкай праваслаўнай царквы з асобнай званіцай. Па святах звон ад яе разносіўся на 10--15 вёрст. Прастаяла царква да 1938 года, калі насуперак жаданню вернікаў яна была разбурана.

Адраджэнне яе пачалося ў дзевяностых гадах. Першае богаслужэнне пасля некаторай рэканструкцыі адбылося больш чым праз паўстагоддзя пасля разбурэння царквы. Сродкі на яе аднаўленне паступілі і паступаюць ад многіх добраахвотных ахвяраванняў людзей. Прыйшлі гэтыя ахвяраванні і ад землякоў-вернікаў з Канады.

Але пакуль мы маем патрэбу ва ўсім. Дарэчы, калі хтонебудзь можа выслаць нам Вялікае Евангелле ў аксамітным ці іншым багатым пераплёце (для ўнясення святарамі ў алтар у час літургіі), тры-чатыры Часасловы (для 3--4-х удзельнікаў царкоўнага хору ў час хрышчэння дзяцей і адпраўлення паніхід па памёршых), 5--6 тэкстаў боскай літургіі (для царкоўнага хору), 1--2 Служэбнікі (для рэгента хору і запаснога на выпадак яго адсутнасці), калі ласка, вышліце ў нашу царкву бандэроллю ці невялікай пасылкай. Да нас мала паступае Біблій, Новых запаветаў і малітвасловаў. Таму, калі можна, вышліце і гэтыя духоўныя кнігі, колькі дазваляюць вашы магчымасці.

**Наш адрас: 247840, Рэспубліка Беларусь, Гомельская вобласць, гарадскі пасёлак Лельчыцы, вуліца Чырвонаармейская, N 32. Свята-Троіцкая праваслаўная царква, прыходскаму Савету царквы.**

За вас, дарагія браты і сёстры, праваслаўныя хрысціяне, будзем узносіць малітвы да Госпада Бога, калі вы зробіце ласку паведаміць нам аб сваіх дарах на Дом Гасподні. А калі што-небудзь вышлеце, то паведаміце пісьмом.

Хай беражэ вас Гасподзь, дзе б вы ні жылі, дзе б ні вандравалі!

Па даручэнню прыходскага Савета і благаслаўленню нашага настаяцеля, айца АЛЕГА,

**Андрэй МАСЛАЎ,**
**член прыходскага Савета, член рэвізійнай камісіі Свята-Троіцкай праваслаўнай царквы гарадскога пасёлка Лельчыцы.**

## БРАВА, "ХАРОШКІ"!

Бітком запоўненая зала Белдзяржфілармоніі не змагла ўмясціць усіх жадаючых папасці на юбілейныя канцэрты Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага ансамбля "Харошкі", які адзначае сёлета сваё дваццацігоддзе. Так! Мінула дваццаць год з таго часу, як узнік гэты унікальны творчы калектыў, народжаны на багатай нацыянальнай глебе. Яго першая канцэртная праграма стваралася якраз на фальклорным матэрыяле вёскі Харошкі Магілёўскай вобласці, што ўрэшце і вызначыла саму назву ансамбля.

Увесь творчы шлях "Харошак" непарыўна звязаны з беларускім фальклорам, з папулярызацыяй на прафесіянальнай сцэне не толькі старых, даўно забытых "вясковых" танцаў, але і старадаўніх інструментаў музейнай каштоўнасці, нацыянальных касцюмаў, зробленых на падставе лепшых узораў народнага адзення. Нязменны мастацкі кіраўнік і галоўны балетмайстар гэтага калектыву -- народная артыстка рэспублікі Валянціна Гаявая.

Стварыўшы за гэтыя гады значны рэпертуарны арсенал, што складаецца са шматлікіх бытавых і абрадавых танцаў, музычна-харэаграфічных кампазіцый, сюіт і нават аднаактовага балета "Па старонках Полацкага сшытка", дзе закранута тэма славянскага адраджэння, "Харошкі", па сутнасці, ператварыліся ў нацыянальны тэатр танца Беларусі. Тут арганізавана свая школа-студыя, якая на двух аддзяленнях (танцавальным і аркестравым) рыхтуе ўласныя высокапрафесійныя кадры.

Амаль кожны танцавальны нумар з праграмы "Харошак" выклікае ў глядзельнай зале ўсхваляваныя воклічы "Брава!" і бясконцыя апладысменты. Гэта якраз сведчыць аб тым, што наш праслаўлены ансамбль стаў зоркай першай велічыні, нацыянальнай гордасцю на шляху адраджэння беларускай культуры.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 312. Падпісана да друку 7. 3.1994 г.